КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 45 (317) ◂ 23 лістапада ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



УЦЁКІ АД ЛЁСУ НА ВАЗКУ

Стар. 6

**УЛАДЗЕ МОЖНА СУПРАЦЬСТАЯЦЬ**

Украіна ў плане разнастайнасці медыя прыемна ўражвае. Ці ёсць заслуга саміх журналістаў у больш ліберальных умовах працы, пра гэта Вользе Хвоін распавядае кіраўнік незалежнага медыя-прафсаюзу Украіны Юрый ЛУКАНАЎ

Стар. 5

**ЛІТОЎСКІ ПАРАЛІЧ**

У Літве заканадаўчая і выканаўчая ўлады не могуць дамовіцца наконт фармату ўраду. Пра прычыны крызісу і прагнозы яго развіцця журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з літоўскім палітыкам Саулісам Пікштусам

Стар. 12

**СУФРАЖЫСТКА І ПАЭТ**

Стар. 14–15

ISSN 2218-2144



**ЧЫТАЙЦЕ
Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ПАТРЫЯТЫЗМ
З ДЗЯРЖАЎНЫМ ТВАРАМ**

Нарыс Сяргея Нікалюка з цыклу «Азбука паліталогіі»

З НАГОДЫ

# НАМ БЫ МІЛІЦЫЮ ЎЗЯЦЬ І ЗАМЯНІЦЬ

Вольга ХВОІН

**Цягам апошніх тыдняў кіраўнік Беларусі заняўся сілавымі структурамі. Дайшлі рукі і да рэфармавання Міністэрства ўнутраных спраў.**

Галоўны аб'ём рэформаў плануецца завяршыць да канца бягучага года. Пытанні, якія патрабуюць карэкціроўкі заканадаўства парламентам і кіраўніком дзяржавы, плануецца вырашыць да 2013 года.

Як заявіў Аляксандр Лукашэнка, пераўтварэнні ў сілавым ведамстве абумоўленыя патрэбаю, каб «забяспечвалася абарона людзей, грамадства, дзяржавы ад злачынных замахаў з улікам сучасных з'яў і тэндэнцый». Ён асобна акцэнтаваў увагу старшынь аблвыканкамаў на гатоўнасці рэгіянальных сістэм рэагавання на надзвычайныя сітуацыі прыроднага і тэхнагеннага характару. У цэлым жа, кажучы пра рэфармаванне МУС, ён падкрэсліў, што гэта пастаянная праца. «Мы гэтымі мерамі міліцыю толькі «прычасалі». Мы яшчэ ў глыбіню не рынуліся».

На думку Лукашэнкі, у першую чаргу для гэтага патрабуецца аптымізаваць структуру органаў унутраных спраў, зрабіць яе прасцейшай, выключыць дублюючыя звёны. Неабходна скараціць колькасць, вызваліць міліцыю ад не ўласцівых ёй функцый, прывесці вайсковы складнік у адпаведнасць з патрабаваннямі сённяшняга дня. Лукашэнка падкрэсліў, што такую працу трэба правесці на ўсіх узроўнях: ад участковага інспектара міліцыі, надаўшы яму асноўную ўвагу, да кіраўнічых апаратаў органаў унутраных спраў.

Кіраўнік Беларусі мяркуе, што пры захаванні аб'ёмаў фінансавання гэта дазволіць павялічыць матэрыяльнае стымуляванне супрацоўнікаў, не абцяжарваючы дзяржаўны бюджэт дадатковымі выдаткамі.




Дзяржаўнаму экспертна-крыміналістычнаму цэнтру МУС неабходна надаць статус самастойнага падраздзялення, што будзе спрыяць больш поўнаму забеспячэнню законных правоў і інтарэсаў грамадзян. Таму кіраўнік дзяржавы прапанаваў прапрацаваць варыянт стварэння ў краіне адзінай службы судовых экспертыз. Ён даручыў унесці да новага года прапановы па гэтым пытанні.

Яшчэ адной задачай, якую неабходна вырашаць найбліжэйшым часам, Лукашэнка назваў рэфармаванне галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй. А скасаванне ўпраўлення корпуса аховы грамадскага парадку, на яго думку, не толькі пазбавіць кіраўніцкую структуру ў вертыкалі ад вайсковага складальніку, але і створыць рэзерв для фармавання пэўных вайсковых часцей, магчыма, і па ахове беларускай АЭС. Лукашэнка адзначыў, што ён прыхільнік таго, каб было адзінае камандаванне ўсімі гэтымі войскамі.

«Структура ўнутраных войскаў павінна стаць аптымальнай! — сказаў ён, звяртаючыся да дзяржсакратара Рады бяспекі Леаніда Мальцава. — Лішнія падраздзяленні нам не патрэбныя. Не трэба нам нічога лішняга! Ваенны чалавек, той, хто пагоны носіць, — міліцыя, КДБ, армія — гэта апора бяспекі нашых людзей. Усе яны на гэта павінны быць мабілізаваны». Лукашэнка даручыў таксама больш старанна перагледзець колькасць асабовага складу МУС.

Кантраляваць меры, якія прымаюцца па рэфармаванні МУС, даручана Дзяржаўнаму сакратарыяту Рады бяспекі. Лукашэнка акрэсліў некалькі задач, якія неабходна вырашыць, каб працэс рэфармавання быў эфектыўным і ў кароткія тэрміны даў станоўчыя вынікі.

Восеннюю экспертная група рыхтавала праект прапаноў па рэфармаванні беларускай сістэмы МУС у межах праграмы «Еўрапейскі дыялог па мадэрнізацыі». Праваабаронца, былы следчы Алег Волчак прымаў у праекце непасрэдны ўдзел. Азнаёміўшыся з прапановамі дзяржаўных мужоў па рэформе сілавога ведамства, ён прыйшоў да высновы, што як мінімум у Лукашэнкі «граматныя кансультанты», як максімум — іх праект прапаноў вывучылі і ў вярхах.

«Напрыклад, у намеры ўзмацніць ролю ўчастковых інспектараў я бачу амерыканскі падыход. Там участковая фактычна галоўныя людзі на тэрыторыі сваёй акругі. Мне падабаецца ідэя зняць з іх лішнюю нагрузку, як то папярэдняе следства. Яшчэ добрая прапанова — зрабіць самастойны экспертны цэнтр, што цяпер працуе пры МУС. Скараціць вайсковы складнік — таксама выдатная ідэя. Па ўсёй Беларусі ёсць вайсковыя часткі МУС. Мы бачылі, як яны ўдзельнічалі ў зачыстцы мітынгаў, іх накіроўвацюць на ахову грамадскага парадку. Але ў тым жа Мінску дастаткова амапаўцаў, патрульных для кантролю за вуліцамі», — «прабягаецца» па пунктах патэнцыйных рэформаў Волчак. І нагадвае пра відавочнае: «Думаю, гэтая рэформа больш патрэбная грамадзянам, бо наша міліцыя стала небяспечнай. Таму варта не проста скараціць штат, змяніць структуру. Мне цікава паглядзець, як будзе ісці падбор і падрыхтоўка кадраў. Вось паказальны выпадак са збіццём у сталічным РАУСе вартаўніка з аўтастаянкі. Падобныя сітуацыі мусяць быць абнародаваныя, вінаватыя — пакараныя, а інфармацыя — распаўсюджаная ў СМІ... Думаю, жыццё само прымусіла ўлады падумаць пра рэформу дзяржорганаў. У адваротным выпадку гэтая сістэма абрынецца пад уласным цяжарам, пад уздзеяннем карупцыі. Але — падкрэслю — мусіць быць сістэмны падыход. Рэформы мусяць закрануць і суды, і пракуратуры, а не толькі міліцыю», — рэзюмуе Алег Волчак.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# СЛЕДСТВА ПАДОЎЖАНА

**Следства па справе журналіста Андрэя Пачобута падоўжна да 21 снежня. Пра гэта паведаміў агенцтву «Інтэрфакс–Захад» афіцыйны прадстаўнік Упраўлення Следчага камітэту па Гродзенскай вобласці Сяргей Шаршаневіч.**



Па яго словах, гэта зроблена «для правядзення дадатковых следчых і працэсуальных дзеянняў», і «для дачы аб'ектыўнай ацэнкі дзеянням абвінавачанага прызначаны шэраг лінгвістычных экспертыз».

«Калі б справу збіраліся перадаць у суд, я б першы ведаў пра гэта, бо мяне б знаёмілі з матэрыяламі справы. Але ніхто нічога не казаў», — зазначыў напярэдадні ў гутарсь з прэс-службай ГА «БАЖ» сам журналіст. Паколькі са следствам ён не супрацоўнічае, усе астатнія навіны са Следчага камітэту ён атрымлівае праз СМІ.

Журналіст перакананы, што за падвешваннем яго справы стаяць нейкія палітычныя прычыны. Але спыняць прафесійнай дзейнасці ён па-ранейшаму не збіраецца.

Карэспандэнта польскай «Gazety Wyborczej», сябра БАЖ абвінавачваюць у парушэнні ч. 2 арт. 367 КК РБ «Паклёп у дачыненні да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». Справу завяло Ўпраўленне Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці ў чэрвені 2012 года на падставе шэрагу публікацый журналіста ў інтэрнэце.

21 чэрвеня ў яго кватэры ў Гродна адбыўся ператрус, у выніку якога ў журналіста забралі аргтэхніку. Да 30 чэрвеня журналіст прасядзеў у гродзенскім СІЗА, пасля чаго быў адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.

Паводле Крымінальнага кодэксу Беларусі, журналіста могуць пакараць абмежаваннем волі на тэрмін да 5 гадоў альбо пазбаўленнем волі на такі ж тэрмін.

Да гэтага тэрміну можа дадацца трохгадовы тэрмін зняволення, на які Пачобут быў асуджаны 5 ліпеня 2011 года з адтэрміноўкай выканання прысуду на 2 гады. Тады журналіста таксама прызналі вінаватым у парушэнні арт. 367 ч. 1 (паклёп на прэзідэнта). Па законе, калі на працягу двух гадоў асуджаны здзейсніць парушэнне гэтага ж артыкулу закона, то пакаранне абавязкова будзе ўжыта супраць яго.

**Прэс-служба ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# АБАРОНА СПАДЧЫНЫ

**Марат ГАРАВЫ**

**Найбольш актуальнай сёння з'яўляецца праблема захавання сядзібна-паркавых ансамбляў і гістарычных цэнтраў гарадоў і вёсак Беларусі, заявіў у каментары НЧ старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч.**

Ён нагадаў, што за савецкім часам на Беларусі найбольш нішчыліся помнікі культавага дойлідства.

Улады свядома нішчылі ў БССР не шараговыя, а знакавыя, унікальныя аб'екты, такія, як помнік позняга барока касцёл у ансамблі Беразвецкага кляштара базыльянаў другой паловы XVIII стагоддзя (Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці), помнік архітэктуры барока першай паловы XVIII стагоддзя касцёл у комплексе Полацкага езуіцкага калегіума (Віцебская вобласць), помнік архітэктуры барока першай трэціны XVII стагоддзя касцёл у ансамблі Пінскага кляштара езуітаў (Брэсцкая вобласць) і самы вялікі на Беларусі храм, гатычна-рэнесансны Гродзенскі касцёл Прачыстай Маці Боскай (Фара Вітаўта) другой паловы XVI стагоддзя. «І рабілася гэта дзеля таго, каб размыць адметную нацыянальную культурную ідэнтычнасць беларусаў», — падкрэсліў старшыня таварыства.

Да найбольш балючых кропак сённяшняй сістэмы аховы аб'ектаў матэрыяльнай спадчыны Астаповіч адносіць невыкананне дзеючага заканадаўства ў галіне збераджэння помнікаў з-за адсутнасці на гэта дзяржаўнай волі.

Сярод актуальных праблемаў айчыннай рэстаўрацыі Астаповіч назваў несістэмны падыход да гэтага важнага пытання. Гаворка ідзе пра адсутнасць навукова-даследчых інстытутаў па пытаннях рэстаўрацыі, невысокі ўзровень тэхналагічнай культуры ў справе аднаўлення помнікаў, нізкую якасць і трываласць рэстаўрацыйных матэрыялаў, а таксама недахоп рэстаўрацыйных праектных і падрадных структураў, асабліва ў рэгіёнах, і кваліфікаваных кадраў рэстаўратараў, у першую чаргу мастакоў і архітэктараў. «І гэта пры тым, што Беларусь займае вядучае месца ў Еўропе па долі бюджэтных сродкаў, вылучаных на рэстаўрацыю помнікаў дойлідства. Але шматлікія выпадкі ігнаравання заканадаўства, нездавальняючая якасць засваення бюджэтных сродкаў пры бескантрольнасці працэсу рэстаўрацыйных работ з боку дзяржавы і грамадства прыводзяць да мізэрных вынікаў», — падкрэсліў старшыня таварыства.

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

# СПРАВА КАВАЛЁВА

**Генадзь КЕСНЕР**

**21 лістапада Любоў Кавалёва атрымала адказ ад Камітэта па правах чалавека ААН.**

Камітэт прызнаў, што ў крымінальнай справе Уладзіслава Кавалёва ў ходзе следства і судовага працэсу было шмат парушэнняў. Камітэт ААН прызнаў парушэнне Рэспублікай Беларусь права Уладзіслава Кавалёва на жыццё. Аднак маладога чалавека, якога пакаралі смерцю, ужо не вернеш.

Як сказала на прэс-канферэнцыі 22 лістапада Любоў Кавалёва, зараз мэта яе жыцця — рэабілітаваць расстралянага сына ў вачах людзей.

Як нагадаў на сустрэчы з журналістамі праваабаронца Раман Кісляк, скарга Любові Кавалёвай, а таксама сястры Уладзіслава Таццяны была накіравана ў Камітэт па правах чалавека ААН 14 снежня 2011 года, а ўжо на наступны дзень яна была афіцыйна зарэгістраваная. Разгляд скаргі адбыўся 29 кастрычніка 2012 года, 14 лістапада канчатковае рашэнне аанаўскай структуры было афіцыйна аформленае, а 21 лістапада па пошце яно дайшло да заяўнікаў. Па словах Кісляка, дакумент праз прадстаўніцтва ААН у Жэневе будзе перададзена афіцыйнаму беларускаму боку.

«Камітэт ААН задаволіў 85–90 працэнтаў патрабаванняў, якія выставілі да беларускіх уладаў маці і сястра Уладзіслава Кавалёва. Так, Камітэт ААН прызнаў такія парушэнні, як прымяненне фізічнай сілы, прымус да дачы паказанняў супраць сябе, парушэнне прэзумпцыі невінаватасці, бо дзяржаўныя СМІ яшчэ да выраку суда назвалі Кавалёва і Канавалава тэрарыстамі. Апроч таго, Уладзіслава і Дзмітрыя прывозілі ў суд у кайданках і саджалі іх у клетку, — адзначыў Раман Кісляк. — Да таго ж, як прызнаў Камітэт ААН, суд над маладымі людзьмі не быў незалежным і непрадузятым. Напрыклад, суддзя адхіляў амаль усе хадайніцтвы адвакатаў, але задавальняў практычна ўсе хадайніцтвы дзяржаўнага абвінавачання».

Апроч таго, падкрэсліў Кісляк, Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў парушэнні і ў дачыненні да маці і сястры Кавалёва. «Абстаноўка сакрэтнасці, што да даты прывядзення прысуду ў выкананне, тое, што сваякам не выдаецца цела расстралянага і нават не паведамляецца месца яго пахавання, было прызнана парушэннем артыкула 7 Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах (забарона жорсткага абыходжання). У дадзеным выпадку Камітэт ААН прызнаў ахвярамі маці і сястру Уладзіслава», — удакладніў юрыст.

Дарэчы, Камітэт па правах чалавека ААН патрабуе ад афіцыйнага Мінску апублікаваць сваё рашэнне ў сродках масавай інфармацыі.

ДАБРАБЫТ

# КАПІТАЛЫ АМНІСТАВАЦЬ НЕ ЗБІРАЮЦЦА

**Генадзь КЕСНЕР**

**Ажыццяўляць амністыю капіталу ў Беларусі ў межах дзейнага заканадаўства немагчыма. Калі ж рашэнне аб правядзенні падобнай акцыі будзе прынятае, то дзеля гэтага запатрабуецца маштабная падрыхтоўчая праца, заявіў БелТА старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда нашай краіны Віктар Камянкоў.**

«Тэма эканамічнай амністыі робіцца актуальнай для краінаў, якія знаходзяцца ў крызіснай сітуацыі, альбо там, дзе фармаванне дабрабыту пэўны час адбывалася на звышпрыбытках. Гэты працэс у свой час перажылі ЗША, Францыя, Турцыя, Казахстан», — адзначыў Камянкоў.

На думку ж айчынных экспертаў, пытанне амністыі капіталу ў Беларусі трэба было ўздымаць раней, а сёння гэтая праблема ўжо не ёсць актуальнай для беларускай рэчаіснасці.

Як мяркуе эканаміст і прадпрымальнік Леў Марголін, амністыя цікавая ў выпадку, калі, як у 1990-х гадах, меў месца перыяд «дзікага накаплення капіталу», і ўзнікала патрэба вяртання гэтага капіталу ў краіну дзеля «запуску вытворчасці».

«Тады людзям, калі яны перайшлі да больш цывілізаванага ладу разумення, можна прапанаваць, каб яны заплацілі падаткі, вярнулі капітал, і тады іх ніхто не будзе пераследаваць. Ад таго часу мінула ўжо больш за дваццаць гадоў. Тыя, хто гэтага хацеў, ужо без усялякай амністыі запускаюць сюды свае капіталы. А той, хто гэтага не зрабіў раней, не зробіць гэтага да таго часу, пакуль у Беларусі не зменіцца ўлада, не зменіцца судовая сістэма. То бок, пакуль чалавек не адчуе, што ў яго не адбяруць ягоны капітал. У беларускіх варунках правядзенне амністыі капіталу было б немэтазгодным і неэфектыўным», — упэўнены Леў Марголін. Таму што, па словах эканаміста, амністыя ёсць добрай у тым выпадку, калі яна дае відавочны вынік.

Зараз, адзначае эксперт, ёсць шмат іншых спосабаў рэінвеставання капіталу. «Недарэмна ў нас адным з асноўных інвестараў з'яўляецца Кіпр. Зразумела, што не кіпрыёты інвесціуюць сюды грошы, а нашы беларусы, якія ў свой час вывезлі адсюль капітал і змясцілі яго на Кіпры. Іншымі словамі, тыя, хто хоча гэтым займацца, знойдуць шмат больш бяспечных магчымасцяў, а той, хто да гэтага не саспеў, ніколі не будзе гэтага рабіць», — рэзюмаваў Леў Марголін.

ІНІЦЫЯТЫВА

# ПРАВАВАЯ ШКОЛА ДЛЯ ЦЫГАНОЎ

**У Гомелі з ініцыятывы мясцовага аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» ладзіўся круглы стол па пытаннях цыганоў, якіх у абласным цэнтры пражывае каля палутара тысяч.**

Каардынатар БХД Юры Клімовіч расказаў пра гісторыю цыганскага народу. Яго першыя прадстаўнікі з'явіліся ў Беларусі больш як тысячу гадоў таму. На жаль, стаўленне да цыганоў было і засталося пераважна негатыўным. У Статуце ВКЛ быў нават асобны 35-ы артыкул пра цыганоў, які вызначаў іх сутнасць як «людзей непатрэбных і гультаяватых».

Грамадская актывістка Марыя Багдановіч, будучы кумой у цыганскай сям'і, зрабіла агляд мясцовай прэсы, у публікацыях якой наглядна праяўляюцца матывы цыганафобіі. Ёй асабіста даводзілося звяртацца ва ўпраўленне ідэалогіі Гомельскага аблвыканкаму і Міністэрства інфармацыі.

Многія з цыганоў не маюць нават пачатковай адукацыі, іх не бяруць на працу. Не маючы дакументаў, цыганы не могуць атрымаць і своечасовую медычную дапамогу. Вельмі часта яны зведваюць ціск з боку міліцыі, напады скінхэдаў. Пра гэта згадвала ў сваім выступе цыганка Надзея. Сама яна не магла ўладкавацца на працу на завод ліцця і нармаляў, пакуль не назвалася асецінкай.

Пастар царквы «Жывое слова веры» Дзмітры Падлобка распавёў пра цыганоў-вернікаў і пра дапамогу царквы ў навучанні цыганскіх падлеткаў, якія ў 12–14 гадоў не ўмелі ні чытаць, ні пісаць. «Калі мы хадзілі да чыноўнікаў адміністрацыі Савецкага раёна, то ў іх знаходзіўся дзясятак прычынаў, паводле які цыганам нельга дапамагчы», — заявіў пастар.

У сваю чаргу праваабаронца і сябар БХД Алесь Яўсеенка адзначыў поўнае няведанне цыганамі сваіх грамадзянскіх правоў. Так, падкрэсліў ён, некаторыя цыганы нават баяцца ісці ў цэнтр працаўладкавання, бо хвалююцца, што іх могуць там арыштаваць. З гэтай прычыны ён прапанаваў стварыць для цыганоў прававую школу, дзе прапануецца навучыць цыганоў іх правам як грамадзян. Між тым пастар Дзмітры Падлобка заявіў, што можа вылучыць памяшканне для школы.

**Паводле прэсавай службы БХД і Радыё «Свабода»**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЛІЧБЫ, СТОЙ, РАЗ-ДВА!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Здаецца, Аляксандр Лукашэнка на гэтым тыдні ўпёрся ў лічбы. Лічбы яго не ўзрадавалі. Таму ён загадаў гэтым лічбам неадкладна выправіцца і за кароткі тэрмін, які застаўся да канца года, зрабіць фокус. А тое, пэўна, не будзе пра што казаць падчас навагодняй прамовы.**



Кіраўнік Беларусі жорстка запатрабаваў ад урада выканаць усе паказчыкі 2012 года, асабліва па валавым унутраным прадукце, прымаючы з дакладам 20 лістапада прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча. «Аказваецца, поўны разброд і хістанне! — зазначыў Лукашэнка. — Кажуць, галоўнае — гэта экспарт, а ВУП — гэта не мае значэння. Я разумею, што экспарт для нас — гэта жыццёва важны паказчык, але без ВУП не будзе і вялікіх аб'ёмаў экспарту… Ну, дык у нас ёсць дададзены кошт, давайце будзем вырабляць тавары з большым прыбыткам. Не страшна, што імпарт узрасце, галоўнае, каб экспарт адпаведна потым узрос, каб мы не толькі кампенсавалі затраты па імпарце, але і атрымалі добры дададзены кошт», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

Ён падкрэсліў, што хацеў бы пачуць і пра вынікі гэтага года. «Зноў падкрытыкоўваюць, што мы не выконваем уласныя абавязацельствы, не выконваем рашэнні прэзідэнта, якія зацверджаны з вашай падачы па гэтым годзе», — сказаў Лукашэнка.

З беларускім ВУП увогуле бяда. Пэўна, Аляксандр Рыгоравіч не ведае, як ён робіцца. Прыкладам, зрабілі дарогу, уклалі ў гэтую дарогу грошы — ВУП узрос. А калі тую ж дарогу знеслі за непатрэбнасцю? Зноў забяспечылі працоўныя месцы, уклалі грошы… Ні дарогі, ні грошай, — а ВУП удвая большы, чым пры будаўніцтве дарогі! Так што варта расчараваць прэзідэнта — беларускі ВУП у прынцыпе не паказчык.

З дададзеным коштам таксама праблемы. Калі яго ўзвінціць, таксама атрымаецца як у анекдоце пра тое, як мужык пеўня на базары прадаваў за 500 долараў: «Чаму 500 долараў, што, певень такі круты?» — «Не, вельмі грошы патрэбныя». Беларускія тавары і так з вялікім скрыпам прадаюцца за мяжой, а калі ўзвінціць на іх дададзеную вартасць, дык тады іх увогуле купляць перастануць.

Вось свежанькі прыклад. У студзені—кастрычніку 2012 года металургічная вытворчасць і вытворчасць гатовых металічных вырабаў у Беларусі ўзрасла на 3,8% у адносінах да аналагічнага леташняга перыяду і склала 33 трыльёна 383,5 мільярда рублёў, паведамляе Белстат. На складах прадпрыемстваў металургічнай галіны па стане на 1 лістапада 2012 года сабралася запасаў прадукцыі на 1,6 трыльёна рублёў, што складае 65,9% сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці. Складскія запасы сталёвых труб склалі 16,2 тысячы тон (89% сярэднямесячнай вытворчасці), дроту — 16,3 тысячы тон (45%), і гэтак далей. То бок, вытворчасць расце, ВУП у нас узрастае шалёнымі тэмпамі. А вось прадаць вынікі гэтага ВУПа ў нас не атрымліваецца.

Прадаваць мы не ўмеем свой ВУП, вось што. Таму і па дадзеных таго ж Белстату, чыстыя страты прамысловых прадпрыемстваў Беларусі ў студзені—верасні 2012 года склалі 1 трыльён 547 мільярдаў рублёў, што ў 1,99 разу больш, чым за аналагічны леташні паказчык.

А тут яшчэ і суседзі ну ніяк не жадаюць дзяліцца грашамі! Сваёй эканамічнай палітыкай і сваім дзяржаўным кіраваннем грашыма мы дайшлі да таго, што нават ужо закладзеныя для Беларусі грошы выдзяляюцца з вялікім скрыпам. Старшыня праўлення Нацыянальнага банка Надзея Ермакова не выключае, што сітуацыя з выдзяленнем Беларусі чарговага траншу крэдыту Антыкрызіснага фонду (АКФ) ЕўрАзЭС у 440 мільёнаў долараў будзе вырашаца на палітычным узроўні.

Справа ў тым, што адной з умоў выдзялення крэдыту з'яўляецца правядзенне прыватызацыі ў Беларусі. А мы гэтую прыватызацыю тармозім. На мінулым тыдні ўжо пісалася пра тое, што Лукашэнка не збіраецца «дэбюракратызаваць» працэс прыватызацыі. На гэтым тыдні наш прэм'ер Міхаіл Мясніковіч заявіў, што на прыватызацыю мы глядзім зусім па-іншаму, чым увесь свет. «Мы прыватызацыю разглядаем як дыверсіфікацыю вытворчасці, прыход новых тэхналогій, інтэграцыю ў транснацыянальныя карпарацыі, зладжаную працу на ўнутраных і знешніх рынках, пераход у прынцыпова новую якасць — з канкурэнтаў у партнёры», — сказаў Мясніковіч.

Ну як тут не ўзгадаць амаль што забытага Лёню Галубкова з ранейшага «МММ»: «Не, брат, я не халяўшчык, я — партнёр!». Але, на жаль, існуюць 25 умоваў прыватызацыі, якія робяць з партнёра выключна халяўшчыка. А сітуацыя з нядаўнім «разносам» «Спартака» і «Камунаркі», калі па адным слове прэзідэнта акцыянерныя таварыствы раптам ператварыліся ў дзяржпрадпрыемствы, з разгонам назіральных саветаў на іх, зусім не дадаюць імпэту патэнцыйным «партнёрам».

Вось і скардзіцца Ермакова: «Атрымліваецца так, што гэтае пытанне як бы пераходзіць у межы палітычныя. Мы спадзяемся, што гэтае пытанне будзе вырашана, і крэдыт АКФ ЕўрАзЭС мы ўсё ж атрымаем».

Так што чакаем: хутка зноў адбудуцца візіты ў Маскву вышэйшых беларускіх чыноўнікаў з традыцыйнай просьбай «дайце грошай».

Сітуацыю могуць пагоршыць і беларускія бюракраты. З чым, але з паперкамі звычайна ў нас абыходзяцца акуратна. Але на гэты раз яны згубіліся, што можа адгукнуцца вялікім выспяткам ад усіх міжнародных структур. Упершыню за апошнія гады ад Беларусі ў МАП не была накіравана справаздача аб выкананні рэкамендацый Міжнароднай арганізацыі працы.

Што ж адбылося? Старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук лічыць, што нашых чыноўнікаў заспакоіла тое, што пытанне аб прафсаюзным руху ў Беларусі не разглядалася на Міжнароднай канферэнцыі працы, якая прайшла ў чэрвені ў Жэневе, пасля чаго беларускі ўрад «палічыў механізм САП зламаным». Аднак там, паведаміў Ярашук, нічога не зламалася. МАП ужо выкарыстала адносна Беларусі практычна ўвесь арсенал прадугледжаных у сваім статуце сродкаў. У сувязі з тым, што сітуацыя з прафсаюзным рухам у краіне пагаршаецца, Ярашук не выключае прымянення працэдуры, прадугледжанай параграфам №33 статута арганізацыі.

Параграф №33 прадугледжвае рэкамендацыі да дзеянняў, якія адміністрацыйны савет МАП «палічыць мэтазгоднымі» для краін, што адмаўляюцца кіравацца рэкамендацыямі Міжнароднай арганізацыі працы. «То бок, МАП можа заклікаць да ўвядзення эканамічных санкцый для паляпшэння сітуацыі з правамі прафсаюзаў», — адзначыў Ярашук.

Так што варта б беларускім чыноўнікам, каб зразумець, што заходнія прафсаюзы — гэта не ФПБ, паглядзець навіны з Еўропы. Там прафсаюзы выводзяць на вуліцы мільёны людзей. Адпаведна, да іх і прыслухоўваюцца. І там нікому не дазволена ігнараваць прафсаюзы, інакш атрымаеш вельмі вялізныя непрыемнасці.

Калі прафсаюзы свету распачнуць кампанію па Беларусі, мала не пакажацца. І тое, што зараз адбываецца ў нас з грашыма, пакажацца дробнымі жартамі ў параўнанні з тым, што будзе.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### СЯРГЕЙ ГАЙДУКЕВІЧ



Ліберальна-дэмакратычная партыя прапанавала прыняць закон аб абавязковым валоданні дзяржаўнымі службоўцамі беларускай мовай. Адпаведная заява прынята Вышэйшым саветам і Цэнтральным камітэтам ЛДП, паведамляе БелаПАН. Дакумент, прыняты на беларускай мове, заканчваецца словамі: «Жыве Беларусь!».

Лідар Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сяргей Гайдукевіч не адмаўляе, што актывізацыя ЛДП у апошнія некалькі месяцаў звязана ў тым ліку з яго намерам балатавацца на пасаду прэзідэнта на выбарах 2015 года.

Каментуючы БелаПАН заяву партыі, у якой сказана пра неабходнасць прыняць закон, што абавязвае кожнага чыноўніка валодаць беларускай мовай, Гайдукевіч адзначыў: «Цяпер ідуць спрэчкі пра суверэнітэт, улада спрабуе штосьці прыдумаць у гэтым кірунку, што трэба ўмацоўваць эканоміку. Але пра які суверэнітэт можна гаварыць, калі дзяржаўныя чыноўнікі не размаўляюць на роднай мове? Як так магчыма, што беларускі чыноўнік, які прыехаў, напрыклад, ва Украіну, размаўляе не на мове тытульнай нацыі? Ва Украіне ўсе размаўляюць на ўкраінскай мове, вакол яе аб'ядноўваецца нацыя».

На словах кожны выступае за суверэнітэт, гаворыць старшыня ЛДП. «Але для пацвярджэння гэтага кожны чыноўнік падчас візітаў у замежныя краіны павінен пачаць размаўляць на роднай беларускай мове. Іншага выйсця няма. Не ведаючы мовы, беларус не павінен мець права паступаць на дзяржслужбу. Я не кажу, што ўсе павінны адразу загаварыць на беларускай мове, але чыноўнікі гэта зрабіць абавязаны», — перакананы лідар ЛДП.

### АЛЯКСАНДР ВАРЛАМАЎ



Завершана расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да Аляксандра Варламава — дырэктара ПУП «Агенцтва моды Сашы Варламава», былога мастацкага кіраўніка Цэнтра сучаснага стылю і моды «UNIVERSUM MODELS» упраўлення па справах культуры БДУ, былога намесніка старшыні арганізацыйнага камітэта рэспубліканскага фестывалю-конкурсу моды і фота «Млын моды» і начальніка Цэнтра моладзевай моды БДУ.

Як паведамілі БелаПАН у аддзеле інфармацыі і сувязі з грамадскасцю Следчага камітэта, Варламаву прад'яўлена канчатковае абвінавачанне ў здзяйсненні злачынстваў, якія прадугледжваюць адказнасць за махлярства ў асабліва буйным памеры (ч. 4 арт. 209 КК), крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі ў буйным памеры (ч. 3 арт. 210 КК), прысваенне маёмасці (ч. 2 арт. 211 КК), ухіленне ад выплаты падаткаў (ч. 1 арт. 243 КК), злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі (ч. 3 арт. 424 КК).

У якасці сведак па крымінальнай справе дапытана больш за 800 чалавек. Пацярпелымі прызнаныя 353 асобы. Па дадзеных следства, агульная матэрыяльная шкода, прычыненая злачыннымі дзеяннямі Варламава, склала больш за 1 мільярд 200 мільёнаў рублёў.

Матэрыялы крымінальнай справы перададзеныя ў Генеральную пракуратуру для прыняцця рашэння аб накіраванні ў суд.

Варламаў быў заключаны пад варту 20 мая 2011 года.

### МІКАЛАЙ ЛАЗАВІК



Сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік у інтэрв'ю «Еўрарадыё» заявіў, калі б экскандыдат на пасаду прэзідэнта, а цяпер палітвязень Мікалай Статкевіч папрасіў аб вызваленні, яго выпусцілі б на волю.

Па словах Лазавіка, ён даўно асабіста знаёмы з экс-кандыдатам у прэзідэнты Мікалаем Статкевічам і запэўнівае, што раней палітык быў больш лаяльным у сваіх палітычных пазіцыях.

«Мне здаецца, што ён адмыслова выпрацоўвае ў грамадстве такі свой імідж пакутніка. Калі б ён хацеў вызваліцца — ён бы ўжо вызваліўся. Для гэтага дастаткова было б напісаць адпаведную заяву. І яно (пытанне пра вызваленне — «Еўрарадыё») было б, хутчэй за ўсё, вырашана станоўча. Але гэта яго асабісты выбар — ён так, як мне здаецца, вызначыўся ў сваіх паводзінах», — сказаў Мікалай Лазавік.

Сакратар ЦВК успамінае, што падчас «штурму» Дома ўрада ён знаходзіўся ў сваім кабінеце і вымушаны быў выключыць святло і нават кампутар з-за страху, што дэманстранты запусцяць у яго каменем.

ЯК ЖЫВУЦЬ НАШЫ СУСЕДЗІ

# ДОБРА, КАЛІ ЁСЦЬ ВЫБАР

Аксана КОЛБ

**Першы раз я ўбачыла Польшчу ў 1976 годзе. Мяне, васьмігадовую дзяўчынку з правінцыйнага беларускага горада, тады ўразілі дзве рэчы: людзі і крамы. Людзі былі ветлівыя і з густам апранутыя, а ў маленькіх крамах была процьма ўсяго таго, чаго я нават ніколі і не бачыла.**



Фота аўтара



Польскія пенсіянеры

Потым мне даводзілася бываць у гэтай краіне не адзін раз і ў розныя для яе часы. Я бачыла, як Польшча паступова мянялася, квітнее. Асабліва заўважныя змены адбыліся за апошнія 5–7 гадоў. З большага, канешне, — гэта вынік уступлення краіны ў Еўрапейскі саюз. І хаця не ўсе ў Польшчы лічаць такое членства пазітыўным, але большасць прызнае пэўныя выгоды ад яго. Згодна статыстыцы, каля 80 працэнтаў палякаў станоўча ацэньваюць уступленне краіны ў ЕС. 70 працэнтаў лічаць, што на працягу 10–20 гадоў Польшча ў поўнай меры атрымае выгоды ад гэтага членства. Прыкладна такі ж расклад атрымліваецца пасля размоў з людзьмі.

## Самая мабільная — моладзь

Безумоўна, найбольш скарысталася перавагамі ЕС моладзь. Магчымасць падарожнічаць без візаў, вучыцца практычна ў любой еўрапейскай краіне, жыць і працаваць там, дзе лепш, — гэта тое, што сёння можа сабе дазволіць амаль любы малады паляк.

«Польская моладзь без якіх-небудзь праблем можа ўдзельнічаць ва ўсіх адукацыйных праграмах, якія даступныя ў краінах ЕС. Я з'яўляюся выкладчыкам, таму добра ведаю, што тысячы нашых студэнтаў у межах праграмы «Эразмус» выязджаюць у розныя еўрапейскія краіны, каб правесці адзін або два семестры ў якім-небудзь універсітэце. Залічаныя там прадметы мы трактуем як раўназначныя. Гэта неверагодна важна. Еўропа адкрылася для нас у розных сэнсах: камунікацыйным, інтэлектуальным, культурным, а ў апошні час таксама і прафесійным, то бок палякі зараз могуць працаваць у большасці еўрапейскіх краін», — лічыць дэкан факультэта права і адміністрацыі Універсітэта імя Лазарскага, прафесар Збігнеў Лясоцік.

З прафесарам згодная і большасць студэнтаў Варшаўскага ўніверсітэта, з якімі давялося паразмаўляць. Амаль кожны з іх хацеў б адзін семестр правёў у іншай краіне. Падвучыў мову, прыдбаў сяброў, проста пазнаёміўся з іншай культурай.

Напрыклад, Сільвестр год адвучыўся ў Берліне, дзе атрымаў, па яго словах, не толькі новыя веды, але і карысны вопыт, шмат знаёмстваў. «Гэта было б амаль немагчыма, каб Польшча не была чальцом ЕС. Заўсёды добра, калі ёсць выбар. Хочаш — заставайся ў сваёй краіне, хочаш — едзь, куды вочы глядзяць», — лічыць хлопец.

Шмат моладзі з'ехала ў іншыя краіны ў пошуках працы. На момант уступлення ў ЕС узровень беспрацоўя ў Польшчы складаў 20 працэнтаў. Таму ў першыя гады каля 600 тысяч чалавек выехалі на заробкі. Зараз паступова тэндэнцыя змяняецца.

Нехта вяртаецца на радзіму, зарабіўшы першапачатковы капітал. Іншыя шукаюць лепшай долі ў Польшчы, не найшоўшы сябе за мяжой. Сябры Міхала, менеджара лагістычнай кампаніі, з'ехалі ў Англію некалькі гадоў таму. Па прафесіі яны медыкі і разлічвалі працаваць там па спецыяльнасці. Атрымалася не вельмі ўдала. Таму ў гэтым годзе яны вярнуліся і вырашылі займацца прыватнай практыкай у Польшчы.

Сам Міхал нікуды ехаць працаваць не збіраецца. Ён наогул здзіўляецца, як можна не знайсці працу ў Варшаве. «Я, напрыклад, працую ўжо 8 гадоў, пачаў адразу пасля заканчэння школы. І за гэты час больш за месяц не быў без працы. Мне здаецца, калі ёсць жаданне, заўсёды можна знайсці тое, што табе падыходзіць. Акрамя таго, пастаянна трэба развівацца, засвойваць нешта новае, карыснае», — упэўнены Міхал.

Па дадзеных за 2011 год, узровень беспрацоўя ў Польшчы скараціўся да 12 працэнтаў.

Мінімальная зарплата ў Польшчы складае 1500 злотых (368 еўра). Сярэдняя заробатная плата знаходзіцца на ўзроўні 3600 злотых (884 еўра). Аднак у Варшаўскім ваяводстве сярэдняя зарплата на 22% вышэй, чым у іншых рэгіёнах Польшчы, і складае 4646 злотых (1140 еўра). Самыя нізкія зарплаты ў Польшчы атрымліваюць швачкі, афіцыянты, касіры, працаўнікі тэлемаркетынга. Іх сярэдняя зарплата складае 383 еўра. Нізкія (па польскіх мерках) зарплаты атрымліваюць таксама сакратаркі і нянечкі ў дзіцячых садках, іх сярэдняя зарплата знаходзіцца на ўзроўні 1800 злотых (442 еўра).

## Пенсія з трох частак

Больш за ўсё сталым людзям у Польшчы не падабаецца тое, што з 2013 года пачнецца паступовае павелічэнне пенсійнага ўзросту мужчын і жанчын да 67 гадоў. Зараз на пенсію на агульных падставах польскія жанчыны выходзяць у 60 гадоў (працоўны стаж 20 гадоў), мужчыны — у 65 (працоўны стаж 25 гадоў).

Памеры пенсій таксама не ўсіх задавальняюць, але беларускія пенсіянеры пра такія і не мараць.

У сакавіку 2012 года сярэдняя пенсія склала прыкладна 1760 злотых (432 еўра). Мінімальная — 700 злотых. Не буду зараз прыводзіць усе дэталі пенсійнай сістэмы Польшчы (дзейнічае з 1999 года), скажу толькі, што пенсія накапляльная і складаецца з трох частак: абавязковых унёскаў дзяржаве, пенсійным фондам і добраахвотных унёскаў камерцыйным страхавым кампаніям. Такім чынам, памер пенсіі наўпрост залежыць ад таго, якія рабіліся ўнёскі.

Акрамя таго, ёсць нюансы налічэння пенсій па ўзросту, інваліднасці, страце кармільца.

75-гадовая пані Эльжбета працавала бібліятэкарам, а калі выходзіла на пенсію, дзейнічала яшчэ старая сістэма, таму яе пенсія — усяго 1300 злотых. З іх прыкладна 500 злотых ідзе на аплату камунальных паслуг двухпакаёвіі ў ацяпляльны перыяд. Праезд у грамадскім транспарце для тых, хто дасягнуў 70 гадоў, — бясплатны. А пасля 75 гадоў пенсіянеры не плацяць за радыё і тэлебачанне. На харчаванне, пры ўмове набыцця самых якасных і разнастайных прадуктаў, пані Эльжбета траціць 400–450 злотых. Застаецца не так шмат. Але некаторыя беларускія пенсіянеры ўвогуле жывуць на гэту астачу.

А вось сталая пара Марыя і Фелікс выйшлі на пенсію нядаўна і пачалі падарожнічаць. Пані Марыя працавала галоўным бухгалтарам, Фелікс — інжынерам-электыкам. Іх сумесны даход складае прыкладна 5000 злотых. Для іх агульная еўрапейская прастора — гэта магчымасць пабачыць свет. «Спачатку было неяк нязвыкла, — распавядае пані Марыя, — збіраемся ехаць у Аўстрыю, а ўсё, што трэба, — гэта грошы і квіткі. Ніякіх табе дазволаў, віз, нават пашпарт не патрэбны. Наша дачка жыве ў Ірландыі. І мы можам у любы момант прыехаць да яе, унукаў пабачыць».

А вось пан Здзіслаў, гандляр кветкамі, нічога добрага ад уступлення Польшчы ў ЕС не бачыць. Ён наогул нічога добрага ў сённяшняй Польшчы не бачыць: «Раней, за саветамі, было як: адпрацаваў свае 8 гадзін, заробак атрымаў — і ляжы сабе. Не трэба было больш ні аб чым клапаціцца. Я на заводзе працаваў, быў неблагі заробак. А зараз што? Не, мне ўсё гэта не падабаецца».

Да слова, пан Здзіслаў быў адзіны ў такіх сваіх перакананнях. Ва ўсялякім разе з тых, з кім мне давялося размаўляць за тыднёвую паездку ў Варшаву.



**Даведка:**

Міхал Альшэўскі нарадзіўся ў 1977 годзе ў горадзе Быдгашч. Скончыў факультэт журналістыкі і палітычных навук Варшаўскага ўніверсітэта. Дырэктар Упраўлення еўрапейскіх фондаў Варшавы. З кастрычніка 2011 года віцэ-мэр Варшавы.

## «Яка велька ест Варшава»

Радкі з дзіцячага вершыка пра Варшаву, мне ўзгадаліся адразу пасля сыходу з цягніка. За апошнія гады сталіца Польшчы значна змяніла сваё аблічча. Можна сказаць, што гэта суцэльная будаўнічая пляцоўка. Акрамя новай лініі метро, будуюцца жылыя комплексы, офісныя гмахі. Гэта стала магчыма, дзякуючы еўрапейскім датацыям. Варшава ўжо атрымала прыкладна 8 мільярдаў еўра на розныя праекты. Што гэта за праекты, спецыяльна для НЧ распавёў віцэ-мэр Варшавы **Міхал АЛЬШЭЎСКІ**:

— Мы сёння думаем пра перспектывы на наступны перыяд (пасля 2014 года) і рыхтуемся да атрымання чарговых 8 мільярдаў, якія дазволяць нам працягваць нашы праекты. Напэўна, без гэтых грошай не прыходзілася б нават марыць пра будаўніцтва другой лініі метро. Гэта наш найбуйнейшы праект. Для параўнання, мы выдаткавалі на яго каля 5 мільярдаў злотых, з якіх больш за палову — 2,9 мільярда — са сродкаў ЕС. 5 мільярдаў — гэта агульная сума, мінус падатак — застаецца 4 мільярда. ЕС пакрывае 59 працэнтаў выдаткаў.

Мы атрымалі грошы на закуп трамваяў, будаўніцтва новых трамвайных ліній, на закуп цягнікоў, якія курсуюць па хуткай гарадской чыгунцы.

Акрамя такіх важных праектаў, як метро, грамадскі транспарт увогуле, дарогі, ёсць і такія, на якія б мы, напэўна, не рашыліся яшчэ шмат гадоў.

Гэта перш за ўсё экалагічныя праекты. Найвялікшы з іх — ачышчэнне сцёкаў і каналізацыйнай сістэмы, а таксама паляпшэнне якасці вады ў водаправодах.

Далей ідуць грамадска-культурныя праекты. Найперш гэта — навуковы цэнтр «Капернік». А таксама датацыі музеям, мадэрнізацыя тэатраў.

Акрамя таго дзякуючы сродкам ЕС мы пачынаем будаўніцтва набярэжнай Віслы. Будзем засвойваць гэту тэрыторыю з турыстычна-рэкрэацыйнымі мэтамі, бо бок — стварэнне бульвараў, пляжаў, мадэрнізацыя Чарнякоўскага порту, уладкаванне веласіпеднай дарожкі.

Мы маем некалькі дзясяткаў праектаў па мадэрнізацыі дзіцячых пляцовак, дамоў культуры, спартовых комплексаў.

У нас шмат праектаў па адаптацыі асоб, якія хочуць застацца ў Польшчы. Праекты, якія датычацца павышэння кваліфікацыі, выраўноўвання шансаў для моладзі ў доступе да адукацыі. У нас было некалькі дзясяткаў праектаў па ахове здароўя, абсталяванню шпіталяў.

У нас ёсць і свае фішкі, якія тычацца, напрыклад, аховы прыроды, аховы птушак на Вісле. Або праект па стварэнню лякарні для птушак, куды можна іх прынесці параненых, а потым іх там іх лечаць і вяртаюць у прыроду. У сярэднім кожная другая птушка вяртаецца ў сваё натуральнае асяроддзе. У нас там ёсць і цэнтр для экзатычных жывёл, якія нелегальна ўвозяцца на тэрыторыю Польшчы. На гэта таксама ідуць еўрапейскія датацыі. І ёсць яшчэ праект, які тычыцца назірання за птушкамі на тэрыторыі Варшавы, на Вісле. Такія праекты мы б ніколі не рэалізавалі самі.

Наогул, паглядзіце на Варшаву! Яна мяняецца ў лепшы бок з кожным днём. На будынку крамы «Эмпік» каля ронда дэ Голя вісіць плакат, дзе напісана: «Увесь народ будуе сваю сталіцу». Гэта сапраўды так, увесь народ павінен ганарыцца, што будуе сваю сталіцу. Тым больш, Варшава — сталіца краіны-чальца ЕС.

***

Праз амаль 40 гадоў з часу майго першага падарожжа ў Польшчу мяне зноў уразілі — людзі і крамы. Людзі — разняволеныя, незласлівыя, ветлівыя і добра апранутыя. Крамы, дзе ад коштаў не хочацца плакаць. А яшчэ уразілі адносіны да культуры, і гістарычнай спадчыны, грамадскі транспарт і сфера паслуг. Але пра гэта — іншым разам.

МЕРКАВАННЕ

# УЛАДЗЕ МОЖНА СУПРАЦЬСТАЯЦЬ

**Няроўныя ўмовы працы для дзяржаўных і недзяржаўных СМІ, пераслед журналістаў за іншадумства, манаполія дзяржавы на тэлебачанне, перашкоды ў доступе да інфармацыі ды шэраг іншых фактараў амаль максімальна вычысцілі медыйнае поле ад непажаданых СМІ. Украіна ў плане разнастайнасці медыя прыемна ўражвае — шапікі поўныя газет і часопісаў рознай тэматыкі-арыентацыі, тэлебачанне прапануе гледачу каналы з альтэрнатыўнымі поглядамі. Ці ёсць заслуга саміх журналістаў у больш ліберальных умовах працы, пра гэта Вользе Хвоін распавядае кіраўнік незалежнага медыя-прафсаюзу Украіны Юрый ЛУКАНАЎ.**

***— Кажуць, медыяпрастора Украіны рухаецца ў бок беларускага ўзору, які абсалютна не ёсць добрым прыкладам. Ці згодныя вы з такім меркаваннем?***



**Даведка:**

Юрый Луканаў, журналіст, займаецца расследаваннямі. Па яго словах, дзякуючы гэтым расследаванням былі выпадкі, калі з людзей здымалі крымінальныя абвінавачванні. Кіраўнік Незалежнага медыяпрафсаюзу Украіны.

— Канешне, тэндэнцыя ёсць, але не ўсё так сумна, як малююць. Пры Кучму цэнзура мела фармальную праяву: адміністрацыя прэзідэнта рассылала «цемнікі», у якіх было прапісана, пра што і як трэба пісаць, каго запрашаць у эфір. Гэта прывяло да журналісцкай рэвалюцыі, якая папярэднічала «памаранчавай» рэвалюцыі. Цяпер жа Кучма ўстанавіў кантроль над усімі галінамі ўлады, пабудаваў вертыкаль, якая працуе на «сям'ю» Януковіча. Ён мае магчымасці «зачмурыць» любога алігарха, адпаведна, нашы алігархі зацікаўленыя ў тым, каб сябраваць з прэзідэнтам. А паколькі большасць СМІ належаць алігархам, то яны не імкнуцца раздражняць Януковіча. Прамой цэнзуры цяпер фактычна няма, хаця адзінкавыя выпадкі ўсё ж былі. Ёсць самацэнзура.

Нядаўна быў выпадак у інфармацыйным агенцтве УНІАН — аштрафавалі журналіста, які паставіў навіну пра Януковіча, што не спадабалася кіраўніцтву. Тым не менш ва Украіне ёсць нейкі настрой, дух — ёсць людзі, якія нязгодныя з такім раскладам спраў і імкнуцца супрацьстаяць гэтаму. Свежы прыклад: нядаўна спрабавалі ўнесці папраўку ў Крымінальны кодэкс, што прадугледжвае пакаранне за паклёп. Сесці можна было б ад трох да пяці гадоў. Журналісты выйшлі на акцыі пратэсту, многа газет, тэлеканалаў распаўсюдзілі адпаведныя банэры, і ўлады былі вымушаныя адклікаць прапанаваныя папраўкі. Ва ўмовах, калі суды працуюць паводле ўказання з Банкавай (вуліца, дзе знаходзіцца адміністрацыя прэзідэнта — аўт.), гэта было б добрай магчымасцю распраўляцца з тымі, хто займаецца журналісцкімі расследаваннямі.

***— Ці ёсць прыклады, калі судовы іск да журналіста завяршаўся перамогай журналіста, а не яго абвінавачваннем? Ці можна работнікам медыясферы праз суд адстаяць свае правы?***

— Былі выпадкі, калі суды станавіліся на бок журналістаў, выданняў. Канешне, судовая ўлада ў нас падпарадкаваная прэзідэнту. І калі ёсць указанне з Банкавай, то выконваюць, і нікуды не дзенуцца. Але суддзі разумеюць, што робяць. Раней яны рабілі гэта за грошы, а цяпер ёсць хіба што адміністрацыйны ціск. І суддзі думаюць, калі няма прамога загаду, няма ўзнагароды, то навошта ім гэта трэба, бо потым яшчэ за такія рашэнні іх жа «шчэмяць»? І таму зацягваюць вынясенне вердыктаў на некалькі гадоў. У нас не ўсё так глуха, як у вас. Няма такога кантролю і Савецкага Саюза. Ёсць нейкая барацьба апазіцыі, грамадзянскай супольнасці, хай сабе і слабай.

***— Ці ёсць у вас прагнозы, што Украіна дагоніць Беларусь у рэгуліроўцы працы СМІ?***

— Лукашэнка пачаў фарміраваць сваю сістэму, калі кланы яшчэ не склаліся. Януковіч у нас на той час быў «развадзяшчым», пасярэднікам. Алігархічная сістэма — не маналітная. Цяпер з'яўляецца інфармацыя, што ёсць незадаволеныя Януковічам, бо ён забірае іх бізнэс. Паміж кланамі існуе канкурэнцыя, ёсць яна і паміж «сям'ёй» Януковіча і кланамі, свой унёсак робяць апазіцыя і грамадзянская супольнасць. Таму не думаю, што мы паўторым беларускую мадэль.

Нядаўна праводзілася сацыялагічнае даследаванне, якое паказала, што СМІ ў грамадзян займаюць другое месца па ўзроўні даверу. Мяркую, старэйшае пакаленне па звычцы давярае СМІ. Яшчэ адзін бок справы: калі б усе медыі былі кантралюемыя, то і ўзровень даверу быў бы да іх нізкім. Але наш журналісцкі асяродак неадназначны, журналісты працягваюць змагацца.




Гэта ўплывае на меркаванне аўдыторыі.

Пра рашучасць настрояў украінскіх журналістаў рабіць крокі, якія б спрыялі іх працы і задачы даносіць усебаковую інфармацыю да аўдыторыі, сведчыць выказванне выканаўчага дырэктара Інстытута масавай інфармацыі Вікторыі СЮМАР пасля нядаўніх парламенцкіх выбараў.

— Не ўсе палітычныя сілы мелі роўны доступ да СМІ. Мы мелі справу ў тым ліку і з «джынсой», выпадкамі платы тэлеканалам, каб мець магчымасць патрапіць у эфір. Цягам апошняга месяца атрымалася падаць крытыку на тэлеканалах, але да апошняга ішлі сюжэты пра Януковіча па нацыянальных тэлеканалах у пазітыўным ключы. Вядома, што прысутнасць тых ці іншых палітычных сілаў у СМІ, як правіла, карэлюецца з вынікамі выбараў. А мы акурат уступаем у фазу падрыхтоўкі да наступнай прэзідэнцкай кампаніі. Таму заданне №1 для грамадскіх арганізацый — стварыць у краіне рэальна незалежны тэлеканал, які б дазволіў правесці ў час прэзідэнцкай кампаніі незалежную палітычную дыскусію. Мусіць быць змена ў законе аб выбарах, якая робіць абавязковымі палітычныя дэбаты, каб выбарца меў магчымасць азнаёміцца з падставовымі, праграмнымі тэзамі кандыдата.

СМІ

# «ЧЫТАЧЫ АД НАС НЕ АДВЯРНУЛІСЯ»

**Інтэлектуальны часопіс «ARCHE» фактычна прыпыняе свой выхад, пакуль не будзе адноўлены банкаўскі рахунак. Пададзены дакументы на перарэгістрацыю часопіса. Рэдакцыйны калектыў спадзяецца, што ў выпадку станоўчага адказу з Мінінфармацыі гэта дапаможа аднавіць выхад «ARCHE».**




«Рэдакцыя часопіса цяпер прыкладае ўсе намаганні, каб наша выданне, якое за гады свайго існавання стала важным складовым элементам таго, што называецца беларускай інтэлектуальнай прасторай, яе не пакінула. Але ў той жа час мы не лічым сумленным браць на сябе новыя абавязкі перад сваімі падпісчыкамі ў той час, калі не выкананыя яшчэ і старыя (5 нумароў за другое паўгоддзе 2012 года ў друк выпусціць нам так і не ўдалося). І менавіта таму, да высвятлення сітуацыі, самі вырашылі адмовіцца ад уключэння нашага выдання ў падпісны каталог на 1-е паўгоддзе 2013 года, а таксама прасіць «Белпошту» аб вяртанні падпісчыкам «ARCHE» грошай за 2-е паўгоддзе 2012 года. Гэтае рашэнне далося нам нялёгка, але яно прынята, бо іншага выйсця няма. Будзем рэалістамі: пры цяперашніх умовах аднаўленне выхаду папяровай версіі «ARCHE» — справа не некалькіх дзён ці тыдняў, а як мінімум некалькіх месяцаў», — гаворыцца ў адмысловым звароце рэдакцыі да чытачоў часопіса.

Нагадаем, з сярэдзіны верасня да часопіса «ARCHE» пільную ўвагу праявіў Дэпартамент фінансавых расследаванняў (ДФР) Камітэта дзяржаўнага кантролю. Праводзіцца паглыбленая



Валер Булгакаў — рэдактар ARCHE

праверка гаспадарчай дзейнасці «ARCHE», яго супрацоўнікі выклікаюцца на размовы ў ДФР, дзяржаўнае тэлебачанне паказала сюжэт, у якім гістарычныя матэрыялы, надрукаваныя на старонках часопіса, ахарактарызавалі як экстрэмісцкія. Быў заблакаваны банкаўскі рахунак «ARCHE».

«Цяпер ідзе паглыбленая праверка Дэпартамента фінансавых расследаванняў наконт таго, як вяліся фінансавыя справы часопіса і кніжных выданняў, што былі затрыманыя ў Лагойскім раёне. Перспектывы гэтых праверак нам не вядомыя. Можа, абмяжуецца сполахам, калі пасля праверкі скажуць, што ўсё ў парадку. Але можа быць і варыянт крымінальнай справы, — гаворыць выконваючы абавязкі галоўнага рэдактара Алесь Пашкевіч. — Час пакажа, ці пераслед часопіса — хаатычны выпад супраць недзяржаўнай прэсы. Калі ж мы акажамся першымі, а потым па апрабаванай падобнай схеме прыйдуць да іншых СМІ, тады, канешне, можна будзе гаварыць, што гэта сістэмны падыход».

Алесь Пашкевіч патлумачыў, што з прычыны паралізаванай дзейнасці рэдакцыі (банкаўскі рахунак заблакаваны, і любыя фінансавыя аперацыі немагчымыя) калектыў «ARCHE» цяпер спрабуе змяніць выдаўца і заснавальніка. У адпаведнасці з беларускім заканадаўствам, для гэтага трэба прайсці перарэгістрацыю. Дакументы ў Мініфармацыі былі пададзеныя 14 лістапада, прыкладна праз месяц будзе вядома, у які бок зрушылася справа.

Разважаючы аб магчымым уплыве грамадскай думкі на рашэнне дзяржчыноўнікаў у справе «ARCHE», Алесь Пашкевіч заўважыў, што цяпер «дзяржава мацнейшая, але мы абавязаныя праяўляць салідарнасць».

«Чытачы дасылалі нам і вусныя, і пісьмовыя словы падтрымкі. Пыталіся, чым могуць дапамагчы, пыталіся, ці трэба матэрыяльная дапамога. Добра, што ў цяжкую хвіліну нашы чытачы ад нас не адвярнуліся», — гаворыць выконваючы абавязкі галоўнага рэдактара часопіса «ARCHE».

## 30 ЛІСТАПАДА, ПЯТНІЦА



**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Эксцэнтрычная камедыя «Выкрасці Бельмандо» (Белтэлерадыёкампанія). 3 -я серыя.
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.25** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**10.55** «1812 год». Гістарычны дакументальны фільм (Белтэлерадыёкампанія).
**11.25** Рэальны свет.
**12.15** Ваенна-шпіёнскі дэтэктыў «Выратуйце нашы душы» (Расія). 4-я серыя.
**13.15** Заўтра - гэта мы!
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.15** Каталіцкія святыні Беларусі.
**16.45** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.25** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25, 00.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Эксцэнтрычная камедыя «Выкрасці Бельмандо» (Белтэлерадыёкампанія). 4-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**22.00** Драма «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**23.15** Серыял «Майстры жахаў». (ЗША-Канада).
**01.00** Дзень спорту.
**01.15** Ваенна-шпіёнскі дэтэктыў «Выратуйце нашы душы» (Расія). 4-я серыя.



**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Дарога ў пустэчу». Шматсерыйны фільм.
**23.00** АНТ прадстаўляе: «Што? Дзе? Калі?» у Беларусі.
**00.15** «Вячэрні Ургант».
**01.10** Прэм'ера. «Пасля школы».
**02.05** Начныя навіны.



**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** Прэм'ера. «Каханне 911».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Цэгла». ЗША, 2005 г.
**15.50** «Хораша жыць».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінщчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Каханне на выспе». ЗША, 2005 г.
**22.20** «Гарады, што спяваюць».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Якія людзі!».
**00.05** «Перамажы Покерстарз».
**00.55** «Адмысловы праект».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Час футболу.
**11.00** Страсці па культуры.
**11.40** Камедыя «Амерыканская дачка» (Расія).
**13.35** Фантастычныя прыгоды «Тыя, што спыняюць час» (ЗША).
**15.30** «Снег падае і растае…». Дакументальны фільм.
**16.15** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.
**17.15** Беларуская кухня.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.40** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.30** Фактар сілы.
**00.00** Арэна.
**00.30** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія). 7-я і 8-я серыі.



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Уся Расія».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Дэтэктыўны тэлесерыял «Таямніцы следства».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Галубка».
**22.25** Новы канцэрт Максіма Галкіна.
**00.40** Навіны - Беларусь.
**00.50** Фільм «Хлебны Дзень» (2009 г.).



**06.00** «НТБ раніцай».
**08.45** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «І зноў добры дзень!».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Ліцейны».
**21.20** Вострасюжэтны фільм «Адпачынак».
**23.05** Дэтэктыў з цыклу «Следчы камітэт».
**00.45** Масква - Ялта - Транзіт.



**00.15** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142. Кваліфікацыя.
**01.00** Покер.
**02.00** Футбол: - :Ліверпуль (Англія) - Дортмунд (Германія).
**02.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142. Кваліфікацыя.
**10.30** Санкавы спорт: Кубак свету. Іглс.
**11.00** Футбол: - :Ліверпуль (Англія) - Дортмунд (Германія).
**12.15** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Жанчыны Індывідуальныя спаборніцтвы.
**13.15** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142. Кваліфікацыя.
**14.15** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Куусама.
**16.00** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Жанчыны Індывідуальныя спаборніцтвы.
**17.30** Зімовыя віды спорту.
**17.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142. Кваліфікацыя.
**18.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142 Камандныя спаборніцтвы.
**20.45** Горныя лыжы: Кубак свету. Хуткасны спуск Мужчыны.
**22.15** Горныя лыжы: Кубак свету. Хуткасны спуск Жанчыны.
**23.45** Зімовыя віды спорту.



**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Без рэтушы: «Каліф на гадзіну», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**17.50** «Піянеры зменаў. Іспанія», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**19.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.45** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**20.25** Невядомая Беларусь: «Феадальнае права Савецкага Саюза», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Дваццаць першая секунда», дак. фільм, 2008 г., Сербія.

## 1 СНЕЖНЯ, СУБОТА



**06.35** Існасць.
**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**09.55** Камедыйны дэтэктыў «Участак» (Расія). Заключная серыя.
**11.05** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**11.35** Зямельнае пытанне.
**12.15** Камедыя «Дзяўчаты» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** «Фільм пра фільм «Выкрасці Бельмандо».
**16.15** Эксцэнтрычная камедыя «Выкрасці Бельмандо» (Белтэлерадыёкампанія). 4 -я серыя.
**17.20** Дакументальны серыял «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**18.25** Таямніцы следства.
**19.10** Эксцэнтрычная камедыя «Выкрасці Бельмандо» (Белтэлерадыёкампанія). 5-я і 6-я, заключная, серыі.
**21.00** Панарама.
**21.40** Заўтра - гэта мы!
**22.15** Міжнародны дзіцячы конкурс песні «Еўрабачанне-2012». Прамая трансляцыя з Амстэрдама.
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Камедыйны дэтэктыў «Участак» (Расія). Заключная серыя.
**01.25** Перазагрузка.



**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.25** «Здароўе».
**10.35** «Смак».
**11.15** «Разумніцы і разумнікі».
**12.25** Фільм «Пенелопа».
**14.15** «Хвіліна славы».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Вялікія гонкі».
**17.55** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**18.45** «Паміж небам і зямлёй». Канцэрт.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.45** «Што? Дзе? Калі?».



**06.00** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**07.45** «Гарады, што спяваюць».
**07.55** «Анфас».
**08.10** «Чыстая праца».
**09.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**09.30** «Мінск і мінчане».
**10.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**11.00** «Гарады, што спяваюць».
**11.10** Фільм «Каханне на выспе». ЗША, 2005 г.
**12.50** «Прыгоды дылетанта».
**13.25** Фільм «Моцны арэшак». СССР, 1967 г.



**14.55** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.45** Фільм «Бог смутку і радасці». Украіна, 2007 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «Гарады, што спяваюць». Паўфінал.
**22.50** «Дзіўная справа».
**23.50** Фільм «Заплаціць спаўна». ЗША, 2002 г.
**01.30** «Глядзець усім!».



**07.35** Дабравест.
**08.05** Мультфільмы.
**09.00** Камедыя «Амерыканская дачка» (Расія).
**11.00** Тэлебарометр.
**11.05** Пазакласная гадзіна.
**11.25** Альбарутэнія.
**12.00** Наперад у мінулае.
**12.30** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.40** Беларуская кухня.
**14.15** Пад грыфам «Вядомыя».
**15.20** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**16.45** Парушаючы запаведзі….
**17.25** Ваша лато.
**18.10** Латарэя «Пяцёрачка».
**18.20** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**19.40** «Імперыя песні». Музычна-забаўляльнае караоке- шоў.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга.
**23.15** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ.
**00.50** Шоў «Суперінтуіцыя».



**07.00** Фільм «Хлебны Дзень» (2009 г.).
**08.40** Фільм «Я шчаслівая!» (2010 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «ХА». Маленькія камедыі.
**12.10** Тэлесерыял «І падае снег.».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**15.40** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.00** «Хвілінная справа». Забаўляльная праграма.
**17.00** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.55** «Танцы з зоркамі». Сезон-2012.
**23.15** Фільм «Павер, усё будзе добра» 2012 г.



**06.25** Серыял «Справа Крапівіных».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Жывуць жа людзі».
**10.00** Сёння.
**10.20** Галоўная дарога.
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** Фільм «Каханне пад грыфам «Зусім сакрэтна»-3».



**15.05** «Жаночы погляд».
**16.00** Сёння.
**16.20** Следства вялі.
**17.10** «Вочная стаўка».
**18.05** Выратавальнікі.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.25** «Прафесія - рэпарцёр».
**19.55** Праграма «Максімум».
**21.00** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.00** «Ты не паверыш!».
**23.00** Крымінальны баявік «Шафт».
**00.45** «Прамень Святла».



**01.30** Бокс.
**02.30** Аўта і Матаспорт.
**02.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142 Камандныя спаборніцтвы.
**10.30** Лыжнае дваяборства: Кубак свету. Куусама - HS 142.
**11.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142 Камандныя спаборніцтвы.
**11.45** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Куусама - 5км Вольным стылем.
**12.45** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Куусама.
**13.15** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Куусама - Мужчыны.10км.Вольным стылем.
**14.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142 Камандныя спаборніцтвы.
**15.15** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Спрынт Жанчыны.
**16.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142.
**18.00** Лыжнае дваяборства: Кубак свету. Куусама.
**18.30** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Спрынт Жанчыны.
**19.45** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Спрынт Жанчыны.
**20.45** Горныя лыжы: Кубак свету. Супер-Гігант Мужчыны.
**22.30** Горныя лыжы: Кубак свету. Хуткасны спуск Жанчыны.



**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.50** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.25** Невядомая Беларусь: «Феадальнае права Савецкага Саюза», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**09.00** Аб'ектыў.
**18.10** Беларусы ў Польшчы.
**18.25** «Апантаныя», дак. цыкл.
**18.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Польскія казкі і паданні».
**19.00** ««Курск» – субмарына ў каламутнай вадзе», дак. фільм, 2009 г., Вялікабрытанія.
**20.15** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Чужое шчасце», маст. фільм, 1997 г., Польшча.
**21.50** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 13 серыя.

## 2 СНЕЖНЯ, НЯДЗЕЛЯ



**06.20** Эксцэнтрычная камедыя «Выкрасці Бельмандо» (Белтэлерадыёкампанія). 5-я і 6-я, заключная, серыі.
**07.55** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**08.30** Медычныя таямніцы.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Нашы.
**09.50** Камедыйны дэтэктыў «Зачараваны ўчастак» (Расія). 1-я серыя.
**10.55** Заўтра - гэта мы!
**11.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.15** Evrovision. Вынікі тыдня.
**12.35** Культурныя людзі +.
**13.10** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Драма «Шоў Трумана» (ЗША).
**17.20** Каробка перадач.
**17.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**18.50** Містычная камедыя «Траса 60» (ЗША-Канада).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Крымінальны трылер «Падазроныя асобы» (ЗША-Германія).
**00.35** Камедыйны дэтэктыў «Зачараваны ўчастак» (Расія). 1-я серыя.



**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная прапаведзь.
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.25** Тэорыя неверагоднасці.
**13.15** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Парцалянавае вяселле».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** АНТ прадстаўляе: «Фактар смеху».
**17.25** Прэм'ера. Асяроддзе пасялення.
**18.25** «Песні маёй краіны».
**20.00** Контуры.
**21.05** Фільм «Неадэкватныя людзі».
**23.00** Прэм'ера. «Таемныя знакі людзі».
**00.00** АНТ прадстаўляе: Гандбол. Ліга чэмпіёнаў.



**06.00** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**07.50** «Аўтапанарама».
**08.20** «Жыць будзеце».
**08.50** «100 адсоткаў».
**09.20** «Вялікі сняданак».
**10.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.00** Фільм «Бог смутку і радасці». Украіна, 2007 г.
**12.40** «Добры дзень, доктар».
**13.15** Фільм «Каханне зямное». СССР, 1974 г.



**15.00** «Дзіўная справа».
**15.55** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.25** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Дзяўчына з татуяваннем цмока». Швецыя-Данія-Германія-Нарвегія, 2009 г.
**23.30** «Куміры».
**00.25** Фільм «Недарэчны чалавек». Нарвегія-Ісландыя, 2006 г.



**07.05** Таямніца душы.
**07.30** Камедыя «Мудрамер» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**10.00** Тэлебарометр.
**10.05** Пазакласная гадзіна.
**10.25** Альбарутэнія.
**11.00** Вышэй за дах.
**11.35** Школа рамонту.
**12.40** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.50** Пра мастацтва.
**14.20** Біятлон. Кубак свету. Гонка праследу. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**15.05** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**15.40** Фактар сілы.
**16.20** Біятлон. Кубак свету. Гонка праследу. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**17.05** Гандбол. Чэмпіянат Еўропы 2013. Жанчыны. Адборачны раўнд. Беларусь - Польшча.
**18.50** Суперлато.
**19.40** Спорт-кадр.
**20.20** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Крымінальная драма «Ноч над Манхэтэнам» (ЗША).
**23.20** Шоў «Суперінтуіцыя».



**07.00** Фільм «Дом без выйсця» (2009 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** Тэлесерыял «І падае снег.».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**15.15** Фільм «Здабытак рэспублікі».
**17.55** Яўген Петрасян. Вялікі бенефіс «50 гадоў на эстрадзе». Частка 2-я.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Фільм «Аазіс кахання» (2012 г.).
**23.25** «Нядзельны вечар».



**06.25** Вострасюжэтны серыял «Справа Крапівіных».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая передача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.25** «Паедзем, паямо!».
**13.00** Сёння.
**13.15** Камедыя «Аферысты».
**15.00** «Таямнічая Расія».
**16.00** Сёння.
**16.20** «Развод па-руску».
**17.10** «І зноў добры дзень!».
**18.10** «Бывае ж такое!».
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.55** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.45** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**23.00** «Венік». Ток-шоў.
**23.55** «Рэакцыя Васэрмана».
**00.25** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.



**00.00** Зімовыя віды спорту.
**00.15** Конны спорт: European Masters. Парыж.
**01.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142.
**02.45** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Спрынт Жанчыны.
**10.30** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Спрынт Жанчыны.
**11.30** Лыжнае дваяборства: Кубак свету. Куусама - HS 142.
**12.30** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Куусама - 10км. Класіка. Жанчыны.
**13.15** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142.
**13.30** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Куусама - Мужчыны 15км Класіка.
**14.30** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Мужчыны Гонка праследу.
**15.15** Лыжнае дваяборства: Кубак свету. Куусама.
**16.15** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Жанчыны Гонка праследу.
**17.15** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**17.30** Конны спорт: European Masters. Парыж.
**19.00** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Дзень 2.
**19.45** Горныя лыжы: Кубак свету. Мужчыны. Слалам-Гігант. 1-я спроба.
**20.45** Горныя лыжы: Кубак свету. Супер-Гігант. Жанчыны.
**22.15** Горныя лыжы: Кубак свету. Мужчыны. Слалам-Гігант. 1-я спроба.
**22.30** Горныя лыжы: Кубак свету. Слалам-гігант. Мужчыны. 2-я спроба.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Цюхця, што ты за стварэнне?!», «Фільм са страшнаю назваю», «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**07.45** «Таямніца Сагалі», серыял: 11 серыя.
**08.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.20** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.50** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**18.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.25** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2012», канцэрт.
**18.45** Казкі для дзетак: «Польскія казкі і паданні».
**19.05** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял: «Вялікі дом».
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.50** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**20.00** «Мітумба: шляхам сэканд-гэнду», дакументальны фільм, 2005 г., Італія–Германія.
**21.00** Без рэтушы: «Куды адплылі пінскія караблі?», рэпартаж, 2012 г., Польшча.
**21.20** Фільматэка майстроў: «Рыса», маст. фільм, 2008 г., Польшча.

---

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ААО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

| | |
|---|---|
| Гомель: | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў: | (8 029) 604 34 57 Юрый; |
| Мінск: | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск: | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк: | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл. (8 029) 651 21 12.**



БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

ЦІКАВА

# СМЕРЦЬ АВАТАРА

Алег НОВІКАЎ



**«Імператар індускіх сэрцаў» «некаранаваны манарх», «месія», «аватар бога», «тыгр» — так пры жыцці называлі ў Індыі гэтага чалавека.**

Усімі гэтымі эпітэтамі ўзнагароджаны Бал Баласахіб Такерай (Тхакрэ), або проста Бал — бацька нацыяналізму народу маратхі, агрэсіўны ісламафоб, аматар правакацый і тэрору як сродку палітычнай дзейнасці, які пайшоў з жыцця 17 лістапада на 86-м годзе жыцця.

Бал пакінуў пасля сябе супярэчлівую палітычную спадчыну. Дастаткова ўзгадаць некаторыя яго перлы: «Індыю і індусаў выратуюць толькі атрады тэрарыстаў-самазабойцаў». Або: «Гітлер быў чалавекам кепскім, аднак ён займаўся мастацтвам, і таму я яго люблю». Можна таксама ўзгадаць вельмі экстравагантныя для кодэксу нацыяналіста ўчынкі Бала. Напрыклад, ён фінансаваў гастролі ў Бамбеі Майкла Джэксана. Прычым Бал не толькі запрасіў музыку, а ў дадатак яшчэ сфатаграфаваў прыбіральню ў сваім доме, якую наведаў Майкл, каб пасля ганарыцца гэтым фактам перад сваім паплечнікамі па партыі.

Аднак фанаты Бала не заўважалі такіх «дробязей». У тым ліку тое, што прозвішча Такерай — калька з прозвішча вядомага брытанскага пісьменніка Уільяма Тэкерэя. Такое прозвішча ўзяў сабе бацька Бала, які вельмі любіў творчасць англійскага літаратара, хаця выступаў за стварэнне асобнай дзяржавы для маратхі. Заўважым, што адным з пастулатаў палітычнай філасофіі Бала была барацьба з культурнымі рэліктамі захадняга, і перш за ўсё брытанскага, каланіялізму. Менавіта яму мы абавязаны тым, што горад Бамбей (ад партугальскага Bom Bahia — Добрая Затока) перайменавалі ў Мумбаі (ад імя індыйскай багіні Mumba).

Аднак, нягледзячы на ўсе неадпаведнасці ў біяграфіі Бала, мільёны людзей аплакваюць нябожчыка (у апошні шлях яго праводзілі 200 тысяч чалавек). Сярод сумуючых выбітныя зоркі індыйскага кіно, бізнэсоўцы і палітыкі. Хаця сам Такерай ніколі ніякіх урадавых пасад не займаў, і нават асабіста ўдзельнічаць у выбарах цураўся. Але гэта не перашкаджала яму быць адным з самых уплывовых палітычных гульцоў ва ўсёй Індыі. Адным жэстам або словам ён мог мабілізаваць вулічную армію сваіх прыхільнікаў, якія пакорліва выконвалі яго інструкцыі аж да забойства людзей.

З улікам маштабу фігуры Такерая, цяжка ўявіць, што пачынаў ён свой шлях у палітыцы як сціплы карыкатурыст, які рабіў шаржы на палітыкаў. Аднак хутка малады мастак радыкальна змяніў профіль дзейнасці. У 1966 годзе ён сфармаваў групоўку «Shiv Sena», або «Армія Шывы» (Шыва тут — не бог індуісцкага пантэону, а Шываджы — адзін з мясцовых цароў, які заснаваў Дзяржаву Маратха). Гэта не выпадкова. Такерай марыў аднавіць дзяржаўнасць маратхі, каб перш за ўсё паставіць бар'ер на шляху працоўных эмігрантаў з іншых больш бедных раёнаў Індыі.

Ідэйна-палітычная дактрына «Арміі Шывы» вельмі мазаічная. З аднаго боку, гэта арганізацыя нацыяналістаў, якая выступае за стварэнне монаэтнічнай дзяржавы, або як мінімум штату Махараштра, дзе афіцыйнай мовай будзе выключна мова маратхі (дарэчы, сёння на маратхі размаўляюць 80 мільёнаў чалавек, і гэта адна з 25 самых ужываемых у свеце моваў). Моўная праблема, дарэчы, узнікла ў індыйскай палітыцы прыблізна ў 1956 годзе як рэакцыя на адмову ўрадавага Індыйскага нацыянальнага кангрэсу стварыць адміністратыўныя адзінкі паводле лінгвістычнага прынцыпу. Джавахарлал Нэру і іншыя лідары Кангрэсу баяліся, што адміністратыўны падзел па такой формуле пахавае дзяржаўнае адзінства Індыі.

Аднак Бал Такерай лічыў, што мове і ідэнтычнасці маратхі пагражае прысутнасць у тым жа Бамбеі прадстаўнікоў іншых этнасаў Індыі. Так, «Армія Шывы» пачала змагацца за тое, каб працоўныя вакансіі даставаліся выключна прадстаўнікам маратхі. Гэты лозунг быў вельмі папулярны сярод маладых маратхі і ператварыў «Армію Шывы» ў масавую арганізацыю.

Адначасова такая ўстаноўка значыла змаганне за ўплыў на прафсаюзы, што на пачатку 1970-х гадоў прывяло да адкрытай вайны з камуністамі. Некалькі лідараў Індыйскай Кампартыі былі забітыя людзьмі Бала. Ёсць думка, што агрэсіўная кампанія «Арміі Шывы» за льготы для прадстаўнікоў маратхі пры працаўладкаванні часткова спрыяла рашэнню праблемы беспрацоўя для гэтага этнасу. Праўда, тое была дзіўная перамога. Пасля прадпрымальнікі ахвотна звярталіся па дапамогу да «Арміі Шывы», калі трэба было пагасіць актыўнасць прафсаюзаў.

Адначасова вялася кампанія супраць «чужога» дробнага бізнэсу. Так, рэстараны з паўднёвай індыйскай кухняй байкатаваліся, а часам нават у іх ляцелі кактэйлі Молатава. Каб абмежаваць прыток вонкавай працоўнай сілы, «Армія Шывы» нават заклікала да ўвядзення візавага рэжыму для жыхароў іншых штатаў для візітаў у Бамбей.

З іншага боку, у 1970-я гады «Армія Шывы» пачала выкарыстоўваць ідэалагемы індуісцкіх нацыяналістаў, якія разглядаюць усе народны і этнасы Індыйскага субкантынента як фрагменты індускай цывілізацыі, якой перш за ўсё, быццам, пагражае іслам. Сваю нянавісць да мусульман Бал тлумачыў вельмі проста: у Індыі жывуць 250 мільёнаў мусульман, што дэ-факта ёсць пятая калона Пакістана, якія гатовыя ўзняць прапакістанскі ўзброены мяцеж. У адным са сваіх выступаў ён параўноўваў мусульман з хваробай на рак, пухлінай, якую патрэбна лячыць так, як гэта робяць медыкі, — выдаліць з дапамогай хірургічнай аперацыі.

Менавіта на Бала Такерая ўскладаюць адказнасць за антымусульманскія пагромы ў Бамбеі ў 1992 годзе, у выніку якіх было забіта каля тысячы чалавек. Бал вывеў сваіх людзей на вуліцы, паколькі яму не спадабаўся вердыкт Вярхоўнага суда Індыі, які адмовіўся разглядаць справу пра перадачу ўчастку зямлі з закінутай мячэццю ў распараджэнне індуістаў. Гэта мячэць была пабудаваная мангольскім імператарам Бабурам пасля сваёй першай перамогі ў Індыі. Лічыцца, што раней на месцы мячэці быў індуісцкі храм у гонар нараджэння бога Рамы.

У 1995 годзе палітычная кар'ера Бала дасягнула зеніту. «Армія Шывы» і партыя індуісцкіх нацыяналістаў «Бхарація джаната парці» прыйшлі да ўлады ў яго родным штаце Махараштра і кіруюць там да цяперашняга часу. Праўда, сам правадыр ніякай пасады ва ўрадзе не атрымаў, пажадаўшы нябачна кіраваць сваімі людзьмі ў дзяржаўным апараце. Магчыма, яго падкасіла смерць сына, які ў 1996 годзе загінуў у аўтакатастрофе. Ацэнка ўраду нацыяналістаў неадназначная. У любым выпадку, нацыяналістычныя ўлады сапраўды нешта зрабілі для эмансіпацыі трушчобаў у Бамбеі. З іх ініцыятывы пачалася забудова бамбейскага Дхараві — самых вялікіх трушчобаў у Азіі, дзе жывуць (калі гэта так можна сказаць) паўмільёна чалавек.

Аднак партыя ўсё роўна захавала свой ксенафобскі імідж. Напрыклад, у 2003 годзе «Армія Шывы» разбурыла газон стадыёну ў Дэлі, на якім быў запланаваны матч паміж індыйскай і пакістанскімі зборнымі па крыкету. Не дарма, калі індыйскія СМІ паведамілі пра смерць «тыгра», практычна ўсе крамы ў Бамбеі пачалі імкліва зачыняцца: іх уладары пабаяліся антымусульманскіх пагромаў. Падчас пахавання Бала ў Бамбей было ўведзена 20 тысяч паліцэйскіх.

Пакуль цяжка сказаць, што чакае «Армію Шывы» без Бала. Ходзяць чуткі, што арганізацыю ўзначаліць яго пляменнік Рай Такерай, які ў свой час так пасварыўся з дзядзькам, што пакінуў шэрагі «Арміі Шывы», каб стварыць сваю партыю. Быццам некалькі месяцаў таму блудны пляменнік вырашыў вярнуцца да дзядзькі і пакаяцца. Хаця пакуль не зразумела, як Рай падпарадкуе сабе структуру «Арміі Шывы», паколькі сам ён былі нацыяналіст-маратхі, а не індуіст. Яго партыя нават дапамагала мусульманскім грамадам, якія размаўляюць на маратхі.

Спецыяльна для НЧ сітуацыю каментуе Мрыдула Гош, індыйскі праваабаронца: «Увогуле, фактычна ў кожным індыйскім штаце ёсць такі палітык, які гуляе на ксенафобіі супраць прадстаўнікоў іншых штатаў. Проста Бал Такерай быў першым у гэтай галіне. Але я думаю, што ў партыі «Армія Шывы» няма будучыні, паколькі няма чалавека такой харызмы, якая б аб'ядноўвала ўсіх. Цяпер «Армія Шывы» чакае маргіналізацыя да з'яўлення на гарызонце новага лідара».

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Мінскія ўлады свядома заплюшчваюць вочы на нелегальных мігрантаў, якія перапраўляюцца праз беларуска-польскую мяжу. Колькасць асобаў, затрыманых на польскім баку мяжы, вырасла ў некалькі разоў. Такім чынам Аляксандр Лукашэнка шантажуе Захад, спрабуючы ўзяць рэванш за палітыку санкцый ЕС.

**«Dziennik» (Польшча)**

Як доўга зможа функцыянаваць беларуская эканоміка ў яе цяперашнім стане, наколькі вялікі рэсурс яе стабільнасці і ці ёсць нескарыстаныя рэзервы? Па меркаванні аналітыкаў, нагодаў для аптымізму ў афіцыйнага Мінска мала. Аляксандру Лукашэнку няма чаму радавацца, бо будучыня Беларусі зараз цалкам залежыць ад Расіі. 18 гадоў аднабокай і неадэкватнай палітыкі Лукашэнкі прывялі да васальнай залежнасці краіны ад Масквы, і зараз толькі расійскія субсідыі і прэферэнцыі ў гандлі забяспечваюць працу беларускай эканомікі. Галоўнай памылкай беларускага кіраўніка быў разрыў з Захадам, вынікам чаго стала страта магчымасці палітычнага манеўру. Таму Масква можа ўплываць не толькі на эканоміку, але і вызначаць ступень незалежнасці беларускай дзяржавы.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Мы ў якой дзяржаве жывём? Дзікае пытанне. Зразумела, у Саюзнай дзяржаве Расіі і Беларусі. Вы пра гэта не ведалі? Дзіўна. Не заўважылі? Яшчэ дзіўней. Гэта — адно са шматлікіх дзівацтваў, звязаных з нашымі дзіўнымі адносінамі з дзіўным братам. Лукашэнка ўмее падаіць Расію як ніхто — яна дае малако добраахвотна і з песнямі пра братэрства і сяброўства. Паколькі іншымі эканамічнымі поспехамі А.Г. пахваліцца не можа, ён угразае ўсё глыбей у павуцінне залежнасці ад Расіі. І менавіта таму робіць усё, каб у чарговы раз Расію кінуць.

**Газета.Ру (Расія)**

Аднойчы ўначы Наталля (Радзіна) змагла збегчы ў Расію на аўтамабілі. «Мой пашпарт застаўся ў КДБ. Да шчасця, кантролю дакументаў на мяжы з Расіяй няма», — кажа яна. Прыехаўшы ў Маскву нелегальна, журналістка змагла з дапамогай «Мемарыялу» атрымаць легальны статус. Перш, чым пачаўся наступны этап яе падарожжа, яна раптам атрымала нечаканую дапамогу з Крамля: «Мне патрэбна была выязная віза. Уладзіслаў Суркоў, першы намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта, дапамог яе атрымаць». Гэта рашэнне расійскіх улад ілюструе складаныя, часта нават супярэчлівыя адносіны паміж Мінскам і Масквой. Іх сяброўства пераменлівае.

**«Le Monde» (Францыя)**

Аляксандр Лукашэнка, аўтакратычны кіраўнік у Мінску, па-ранейшаму трывала сядзіць у сваім фатэлі, бо ўведзеныя супраць яго санкцыі з'яўляюцца палавінчатымі. Толькі забарона на імпарт нафтапрадуктаў, які прыносіць беларускай дзяржаве вялікую частку грашовых сродкаў, магла б апынуцца для яго адчувальнай, аднак на Захадзе гэтага ніхто не жадае.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІРАН. КАРАН У КІНО

Не так даўно ў Іране выйшла свая кінаверсія гісторыі прарока Мухамеда, якая выклікала вялікае абурэнне ў Саудаўскай Аравіі. На думку арабскіх уладаў і мясцовых кінакрытыкаў, іранская версія гісторыі ісламу з'яўляецца нефармальнай прапагандай шыізму і ў дадатак сірыйскага рэжыму (як вядома, Тэгеран падтрымлівае афіцыйны Дамаск, а Эль-Рыяд — паўстанцаў). Чым закончыцца канфрантацыя паміж Іранам і Саудаўскай Аравіяй з-за таго, як трэба экранізаваць Каран, цяжка сказаць. Магчыма, кропку ў гэтай гісторыі паставіць Катар. Мясцовыя багатыя шэйхі маюць намер фінансаваць у наступным годзе здымкі сваёй версіі гісторыі ісламу на базе адной са студый Галівуду. Па чутках, у праект будзе ўкладзена некалькі сотняў мільёнаў долараў. Таксама вядома, што ў гэтым фільме пра гісторыю ісламу прарок Мухамед і іншыя персанажы Карану не будуць паказаныя.

**Паводле французскай прэсы**

### УКРАІНА. ЭКС-ФУТБАЛІСТ ЗАСТАЕЦЦА Ў ПАЛІТЫЦЫ

Славуты экс-футбаліст Андрэй Шаўчэнка застаецца ў партыі «Украіна — наперад» (лідар Наталля Каралеўская). Нагадаем, што Шаўчэнка падаўся да Каралеўскай напярэдадні парламенцкіх выбараў, якія партыя «Украіна — наперад» катастрафічна прайграла, нягледзячы на шалёную рэкламу (партыя атрымала 1,5 працэнта). Аднак, калі верыць Андрэю, катастрофа ніякім чынам не паўплывала на яго прыхільнасць да справы Наталлі Каралеўскай. Па словах Шаўчэнкі, бліжэйшым часам ён будзе дапамагаць партыі збіраць аднадумцаў па ўсёй краіне і рыхтавацца да наступных выбараў. Між тым, палітолагі лічаць, што да наступных выбараў праект «Украіна — наперад» можа не дажыць. Невядома, ці працягне падтрымліваць Каралеўскую алігарх Рынат Ахметаў. Што тычыцца Каралеўскай, то яна зрабіла сенсацыйную прамову: заявіла, што выбары ў Вярхоўную Раду былі фальсіфікаваныя… аранжавай апазіцыяй. Быццам дэмакраты загадзя дамовіліся з Партыяй рэгіёнаў наконт падзелу дэпутацкіх месцаў, а цяпер гуляюць у спектакль пад назвай «пратэсты супраць фальсіфікацый».

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### РАСІЯ. ЗАМЕСТ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ АЎТАНОМІЙ — ГЕАГРАФІЧНЫЯ

У Дагестане збіраюцца выступіць з ініцыятывай па змене назваў нацыянальных рэспублік Расіі. Гаворка ідзе пра змену этнічнага варыянту наймення рэспублікі на геаграфічны. Улады Дагестана лічаць, што суб'екты РФ не могуць насіць назву аднаго з этнасаў. Логіка наступная — сёння ўсе рэспублікі, у тым ліку і на Паўночным Каўказе, шматэтнічныя. Вылучаць адзін этнас у назве няправільна, паколькі гэта пагражае міжнацыянальнай нярoўнасцю. Напрыклад, кажуць ініцыятары закону, у Татарстане пражывае 53% татараў, а 47% жыхароў — не татары. Атрымліваецца, што гэтыя 47% — людзі другога гатунку, якія пражываюць там на правах госцяў. Быццам, шматлікіх міжэтнічных праблем можна будзе пазбегнуць, калі памяняць назвы на геаграфічныя. Напрыклад, Кабардзіна-Балкарыю прапануецца назваць Прыэльбруская Рэспубліка, Татарстан — Казанская Рэспубліка, а Башкартастан — Уфімская Рэспубліка. Першыя апытанні татарскіх і башкірскіх палітыкаў паказваюць, што ініцыятыва дагестанцаў будзе сустрэтая ў штыкі. Асабліва ў кантэксце нядаўняга заклiку лідара партыі «Грамадзянская платформа» Міхаіла Прохарава, які прапанаваў увогуле скасаваць нацыянальныя аўтаноміі. Ініцыятыва Дагестана можа трактавацца як спроба пачатку рэалізацыі прапановы Прохарава, толькі акуратнымі сродкамі.

**Паводле расійскай прэсы**

### КЕНІЯ. АФРЫКА ЛЕГАЛІЗУЕ АДНАПОЛЫЯ ШЛЮБЫ




Улады Кеніі запланавалі рэформу сямейнага права. Яе цэнтральныя тэмы — адмена калыму (платы за нявесту), легалізацыя палігаміі і прымусовае заключэнне шлюбаў для партнёраў, якія жывуць разам больш за шэсць месяцаў. Апошняя мера патрэбна, каб змагацца з негатыўнай з'явай, калі мужчыны кідаюць жанчын, як толькі тыя становяцца цяжарнымі. Праўда, калі такая пара, пабыўшы мужам і жонкай, разыходзіцца, яна можа звярнуцца ў адпаведную структуру, і іх шлюб скасуюць. Каб абараніць правы жанчыны, таксама будзе легалізаваная палігамія. Цяпер муж павінен клапаціцца па ўсіх сваіх нефармальных жонак. Што тычыцца адмены калыму, то гэта мера павінна ліквідаваць практыку злачынстваў, якія робяцца жаніхамі на глебе пошуку грошай на выкуп нявесты. Звычайная плата за нявесту — адна каза або вярблюд, якіх бедныя жаніхі папросту крадуць, рызыкуючы здароўем і нават жыццём. Пакуль, аднак, не зразумела, як адаптаваць новыя законы да традыцыйнай культуры. Напрыклад, адпаведна племянному праву, у выпадку смерці мужа жонка ўвогуле нічога не атрымлівае. Усю маёмасць нябожчыка забірае кіраўніцтва клану. Самае смешнае, што ніякай грамадскай дыскусіі пра новы закон не выклікаў пункт закону пра аднаполыя шлюбы. Новы закон дазволіць жанчыне заключаць шлюб з жанчынай. Аказваецца, усё таму, што ў некаторых мясцовых народаў ёсць звычай жаночых шлюбаў.

**Паводле нямецкай прэсы**

---

**КАМЕНТАР**

# ЛІТОЎСКІ ПАРАЛІЧ

**У Літве ўрадавы крызіс — заканадаўчая і выканаўчая ўлады не могуць дамовіцца наконт фармату ўраду. Пра прычыны крызісу і прагнозы яго развіцця журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з літоўскім палітыкам Саулісам Пікштусам.**



***— У чым галоўная праблема на шляху стварэння кааліцыі?***

— Справа ў юрыдычных момантах. А дакладней, у пазіцыі прэзідэнта Далі Грыбаўскайтэ, якая не стала пасіўнаназіраць за працэсамі ва ўнутрыпалітычным жыцці краіны і актыўна ўмяшалася ў перамовы наконт стварэння кааліцыі. Яна заявіла, што не дасць згоды на стварэнне кабінету з удзелам Партыі працы, якую ўзначальвае Віктар Успаскіх. Па канстытуцыі, прэзідэнт сапраўды можа накладаць вета на рашэнне партый стварыць урад.

Яшчэ пасля першага туру лідар Партыі працы дамовіўся пра стварэнне кабінету з эсдэкамі і партыяй «Парадак і справядлівасць». Заставаліся толькі тэхнічныя праблемы — падзел партфеляў. Паводле літоўскай палітычнай традыцыі, пасада прэм'ера дастаецца таму кааліцыянту, які набраў больш працэнтаў. Аднак па выніках першага туру было цяжка зразумець канчатковы вынік. Паводле літоўскага выбарчага заканадаўства, 70 дэпутатаў абіраецца па партыйных спісах, а яшчэ 71 — па мажарытарных акругах, дзе перамоцам лічыцца той, хто атрымаў больш за 50 працэнтаў галасоў. Для гэта патрабуецца працэдура другога туру. Па яго выніках перамагла апазіцыя: эсдэкі атрымалі 38 мандатаў, «Парадак і справядлівасць» — 11 і Партыя працы — 28. Разам тройка мае большасць дэпутатаў у парламенце са 141 чалавека. Гэтага па канстытуцыі дастаткова для стварэння ўраду.

***— Чаму прэзідэнт не дае згоду на кааліцыйны ўрад у такім фармаце?***

— Афіцыйная адмова Грыбаўскайтэ тлумачыцца тым, што дзяржавай не могуць кіраваць людзі, якія праходзілі па розных крымінальных справах і выбарчых падтасоўках. Гаворка, зразумела, пра Партыю працы і яе лідара Віктара Успаскіх — алігарха рускага паходжання. Дастаткова ўзгадаць, што Успаскіх пасля першага праходу яго партыі ў парламент (2000 г.) і яе ўваходжання ў склад ураду хутка злавілі на падатковых махінацыях і партыйнай «чорнай бухгалтэрыі». У 2004–2006 гадах у дакументах ПП не зафіксавалі прыбыткі на суму 25 мільёнаў літаў і выдаткі на суму 23 мільёна літаў. Гэтыя скандалы каштавалі партыйнаму лідару адстаўкі з пасады міністра эканомікі і нават імклівай эміграцыі ў Расію. Там Успаскіх папрасіў палітычны прытулак. Пасля вярнуўся ў Літву.

І, здаецца, зноў заняўся звыклай справай. 10 лістапада Канстытуцыйны суд прызначыў выбары часткова нелегітымнымі. Шэраг дэпутатаў ад Партыі працы абвінавацілі ў подкупе выбаршчыкаў. У трох акругах, дзе пераможцамі спрэчных выбараў сталі прадстаўнікі Партыі працы, ім прадпісана перадаць свае мандаты. Акрамя таго, раней Генеральная пракуратура выступіла з заклікам узмацніць жорсткасць абвінавачвання ў згаданай справе пра чорную бухгалтэрыю Партыі працы.

***— Не зразумела, як Успаскіх мог вярнуцца ў Літву і заняцца палітыкай пасля таго, што нарабіў?***

— Гэта вялікая таямніца, разгадку якой ніхто пакуль не ведае. Успаскіх, сапраўды, некалькі разоў пасля вяртання арыштоўвалі, але хутка адпускалі. Адна з самых папулярных версій — карупцыйныя сувязі ў літоўскай палітычнай эліце. Так, пропуск у палітыку яму даў экс-прэзідэнт Паксас, які пасля імпічменту нечакана для ўсіх са сваёй партыяй пасябраваў з Партыяй працы. Дарэчы, неадназова Паксаса вінавацілі ў фінансаванні яго партыі праз структуры «Газпрама».

***— Чаму літоўцы галасуюць за Успаскіх нягледзячы на такі шлейф скандалаў?***

— Гэта, на першы погляд, абсалютны феномен, паколькі ўзровень ведання літоўскай культуры і мовы Успаскіх жадае лепшага. Тут некалькі прычын. Сапраўды, шмат хто ў Літве расчараваўся ў дзяржаўнай сістэме і законнасці. Шмат хто ўвогуле не верыць, што выбарамі можна нешта змяніць, і выкарыстоўвае паход на выбары ўчастак як спробу пратэсту. Успаскіх, якога называюць літоўскім Жырыноўскім, цалкам выконвае ролю куміра пратэстнай часткі электарату.

***— Калі меркаваць па каментарах у расійскай прэсе, новы ўрад разглядаюць як прамаскоўскі.***

— У Літве мала рускіх (каля 6 працэнтаў), і ў адрозненні ад Латвіі і Эстоніі так званага «рускага пытання» няма. Аднак «Газпраму» яўна не падабаецца прыняты раней антыманапольны закон, які забараняе пастаўшчыкам газу адначасова прадаваць энерганосьбіты кліентам. Лічыцца, што гэта было моцным ударам па пазіцыях мясцовай газпрамаўскай кампаніі «Lietuvos Dujos». Цяпер Літва і «Газпрам» судзяцца наконт гэтага закона ў Стакгольмскім арбітражным судзе. Магчыма, у выпадку прыходу Успаскіх ва ўрад пазіцыя Літвы стане больш мяккай.

***— Ці адмовіліся кааліцыянты ад ідэі фармавання ўраду пасля заявы Грыбаўскайтэ і рашэння Канстытуцыйнага суда?***

— 12 лістапада яны зрабілі спецыяльную заяву наконт рашэння КС. Па словах лідараў «тройкі», хаця выбары адбываліся з парушэннямі, а на некаторых акругах іх вынікі нелегітымныя, у цэлым яны прайшлі законна. Таму няма падстаў мяняць сваё рашэння сфармаваць левацэнтрысцкую кааліцыю. У сваю чаргу, Грыбаўскайтэ лічыць, што такога вердыкту дастаткова, каб прызнаць выбары нелегітымнымі.

***— Як літоўскае грамадства ставіцца да ўчынку Грыбаўскайтэ?***

— З 2009 года, калі Грыбаўскайтэ была абраная прэзідэнтам, яе рэйтынг трымаецца на ўзроўні 70 працэнтаў, і пакуль застаецца такім жа стабільна высокім і вышэйшым за рэйтынг лідара эсдэкаў Альгірдаса Буткявічуса, які павінен узначаліць кааліцыю. У яго каля 15 працэнтаў падтрымкі ў грамадстве.

***— Калі Грыбаўскайтэ не дасць згоды на стварэнне трохпартыйнай кааліцыі, што можа чакаць Літву?***

— Першае, што прыходзіць у галаву, — блок кансерватараў і эсдэкаў. Аднак створаны на такой базе ўрад будзе вельмі няўстойлівы. Менавіта за кошт супрацьпастаўлення сваёй платформы ідэалогіі кансерватараў сацыял-дэмакраты і атрымалі перамогу на выбарах. Застаецца варыянт больш шырокай кааліцыі з удзелам польскай партыі, лібералаў і іншых карлікавых фракцый. Аднак палітолагі скептычна ставяцца да перспектыў доўгага існавання такога стракатага ўраду.

Яшчэ адзіны варыянт — трохпартыйная кааліцыя са згаданых партый, аднак без асабістага ўдзелу ў ёй Віктара Успаскіх і іншых дыскрэдытаваных асобаў. З фармальнай кропкі гледжання, усё быццам добра, калі не браць пад увагу той факт, што ўсё ў Партыі працы вырашае асабіста Успаскіх, і фактычна міністры, прызначаныя па квоце Партыі працы, будуць папросту яго марыянеткамі. Наўрад ці Грыбаўскайтэ пагодзіцца на такі варыянт.

Развязка крызісу надыдзе, калі парламент сфармуе і накіруе на зацвярджэнне прэзідэнта склад новага ўрада. Карыстаючыся рашэннем Канстытуцыйнага суда пра частковую нелегітымнасць выбараў, прэзідэнт паспрабуе распусціць Сейм. Што будзе далей, пакуль прагназаваць цяжка, аднак у любым выпадку наўрад ці канфрантацыя выйдзе за рамкі прававога поля.

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# ЦІ З'ЯВІЦЦА ПОЛЬСКІ БРЭЙВІК?

Алег НОВІКАЎ

**Некаторыя польскія палітолагі лічаць, што маштабныя сутычкі правых радыкалаў і паліцыяй падчас «Маршу Незалежнасці» 11 лістапада здольныя змяніць польскі палітычны ландшафт.**




Сам тэрмін «Марш Незалежнасці» з'явіўся ў палітычным лексіконе прыблізна 2 гады таму. Актыў правых арганізацый «Нацыянальныя польскі супраціў» (ONR) і «Усяпольская моладзь» («Młodzież Wszechpolska») вырашылі імпартаваць вопыт расійскіх калег, якія ладзяць на свята Дзень народнага адзінства «Рускія маршы». Першыя такія маршы на 11 лістапада шырокая публіка практычна не заўважыла.

Левыя вырашылі на зло правым у той жа самы дзень і на тым жа самым месцы (плошча Канстытуцыі) правесці «Марш за каляровую незалежнасць». Як і трэба было чакаць, у выніку ўсё вылілася ва ўзаемны мардабой, да якога падключылася паліцыя. Пасля леташняй бойкі, дзе засвяціўся дэсант нямецкіх антыфа, улады вырашылі супакоіць эмоцыі. У Бельведэры (рэзідэнцыя польскага прэзідэнта) было заяўлена пра намер правесці «Марш Незалежнасці» ў фармаце, які здольны прымірыць усіх.

11 лістапада 2012 года афіцыйны «Марш Незалежнасці», які называўся «Разам для Незалежнай» («Razem dla Niepodległej»), сапраўды адбыўся. Прэзідэнт Браніслаў Камароўскі выступіў з прамовай, лейтматывам якой была ідэя грамадскага кампрамісу. Па яго словах, сучаснікам трэба браць прыклад з Юзэфа Пілсудскага і Рамана Дмоўскага, якія былі заўзятымі апанентамі, аднак гэта не перашкаджала ім разам пабудаваць незалежную Польшчу.

Аднак значна больш маштабным быў контрмарш, арганізаваны правай апазіцыяй, якая пагадзілася на ўдзел у ім правых радыкалаў. 50-тысячная дэманстрацыя закончылася сутычкамі ўльтраправых з паліцыяй. Дзякуючы СМІ менавіта правыя радыкалы сталі героямі 11 лістапада, ператварыўшыся ў заўважных палітычных актораў.

Ужо абвешчана пра стварэнне новай партыі — «Нацыянальны рух». «Адзіны адказ для існуючых урадаў і скампраментаваных палітычных эліт, якія руйнуюць нашу айчыну, будзе ініцыятыва нацыяналістычная», — гаворыцца ў адным з матэрыялаў аўтараў «Нацыянальнага руху». Планы ў нацыяналістычных лідараў напалеонаўскія. Так, лідар групоўкі «Młodzież Wszechpolska» Роберт Вініцкі разлічвае на бліжэйшых выбарах набраць аж 30 працэнтаў галасоў і ў хуткім часе нават скасаваць у Польшчы рэспубліканскі лад.

Але гэта, натуральна, фантазіі. Як лічыць адзін з выдаўцоў вядучага польскага антыфашысцкага часопіса «Nigdy Wiencej», Рафал Панькоўскі, правыя могуць рэальна марыць выключна пра «венгерскі сцэнар» для Польшчы. У Венгрыі паралельна кансерватыўнай партыі «Fidesh» існуе больш радыкальная «Jobbik», якая прадстаўлена ў парламенце і ў мясцовых органах улады. Вядома, што не так даўно актыў групоўкі «Młodzież Wszechpolska» праходзіў спартыўныя курсы на базе «Magyar Garda» (ахоўных атрадаў партыі «Jobbik»).

Між тым, жоўтая прэса адразу пачала па-свойму інтэрпрэтаваць ваяўнічыя заявы ўльтра, сцвярджаючы, што вось-вось у іх асяродку з'явіцца тутэйшы Брэйвік. Безумоўна, пры гэтым узгадваюць старонкі гісторыі. У 1920-я гады створаны Дмоўскім рух нацыяналістаў быў адным з галоўных фактараў палітычнай дэстабілізацыі. На рахунку нацыяналістаў некалькі замахаў на высокіх урадаўцаў, уключаючы забойства прэзідэнта Габрыэля Нарутовіча.

Пакуль, праўда, у сучаснай Польшчы цяжка ўявіць рымейк 1920-х або венгерскі сцэнар. Відавочна, што на акцыю 11 лістапада прыйшлі галоўным чынам дзякуючы папулярным кансерватыўным медыя, якія зрабілі мерапрыемству рэкламу. Большасць з маніфестантаў, калі меркаваць па лозунгах, былі вельмі далёкія ад праварадыкальных і антысеміцкіх забабонаў. Галоўным чынам удзельнікі маршу кляймілі камуністаў (гэта прытым, што людзей, якія называюць сябе «камуністамі», за Бугам практычна няма).

І што могуць прапанаваць правыя, акрамя пустых слоў? У нацыяналістаў няма канструктыўнага адказу на вельмі актуальныя праблемы эканомікі. Тое, што прапануе сучасная ўльтраправая эканамічная тэорыя, нагадвае маналогі Шарыкава. «Сапраўдная альтэрнатыва — гэта справядлівы перадзел», — піша сайт ONR.

Нарэшце, у сучаснай гісторыі Польшчы былі ўжо эпізоды, калі фармацыі ідэйна больш правыя за кансерватараў не толькі прарывалі медыйную ізаляцыю, аднак нават траплялі ў парламент і, больш за тое, у склад выканаўчай улады. Дастаткова ўзгадаць «Лігу польскіх сямей», лідар якой Раман Гертых, дзякуючы ўваходу Лігі ў кааліцыю з кансерватарамі, нават узначальваў Нацыянальнае тэлебачанне. Аднак у фінале Ліга развалілася па шэрагу прычын. Такім чынам, хваляваца быццам няма падстаў.

Супакойваюць грамадства і спецслужбы. Шэф Бюро нацыянальнай бяспекі (BBN) кажа, што ўся праварадыкальная субкультура знаходзіцца пад кантролем яго агентаў і з'яўленне ў Польшчы свайго Брэйвіка — гэта нонсенс.

Аднак не ўсе так аптымістычна глядзяць на сітуацыю. Паводле песімістаў, трэба ўлічваць, што «Ліга польскіх сямей» існавала ў дакрызісныя часы, калі маргіналізацыя грамадзян і, адпаведна, сацыяльны запыт на радыкальную палітычную сілу не былі такімі моцнымі. У тым, што база падтрымкі правых за апошнія пару гадоў значна пашырылася, можна пераканацца, пераглядзеўшы рэпартаж пра беспарадкі. Хаця касцяк па-ранейшаму складаюць фанаты, у натоўпе хуліганаў былі і звычайныя людзі. Не цураліся супрацоўнічаць з ультраправымі і кансерватары — арганізатары маршу, якіх цяжка лічыць радыкаламі, напрыклад, некаторыя секцыі прафсаюзу «Салідарнасць». Іншымі словамі, імунітэт грамадства да радыкальнай правай ідэалогіі стаў больш слабы.

На думку левых, актыўнасць на правым флангзе — наступства культу ў цяперашняй Польшчы міфа Другой Рэчы паспалітай (II RP), у аснове якога геraічны этас эліты. Быццам, ідэя элітарнасці і стварае моду на фашызм. Цікава, што левыя прапануюць перанесці святкаванне Дня незалежнасці на 7 лістапада — у гэты дзень у 1918 годзе быў сфармаваны першы польскі ўрад з сацыялістам Ігнаціем Дашчынскім на чале, чыя опцыя польскай незалежнай дзяржавы — сацыялізм, талерантнасць, дэмакратыя, на думку левых, павінна быць рэабілітаваная.

Аднак большасць палітолагаў лічаць, што II RP тут не пры чым. Уздым нацыяналістаў немагчымы без клімату, які стварае кансерватыўная партыя «Права і Справядлівасць» (PiS) сваёй агрэсіўнай фразеалогіяй. «Калі Яраслаў Качыньскі кажа «а», сцвярджаючы, што прэзідэнт і кіраўніцтва Польшчы былі забітыя пад Смаленскам, то нацыяналісты кажуць «б», патрабуючы ліквідацыі рэспублікі», — адзначае кансерватар Міхал Каміньскі. У сваю чаргу, кіраўніцтва PiS лічыць, што нацыяналісты — тэхналагічны прадукт Дональда Туска, які хоча расколоць электарат PiS.

Якімі б гарачымі ні былі палітычныя перапалкі, відавочна, што польская грамадства прызнала наяўнасць праблемы правых радыкалаў і пачало думаць, як яе вырашаць.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ЖАН-ФРАНСУА КАПЕ



Капе быў абраны старшынёй партыі «Саюз за народны рух» (UMP) пасля таго, як перамог на партыйных выбарах свайго канкурэнта Франсуа Філона з разрывам ўсяго ў 98 галасоў. Такі вынік называюць перамогай фракцыі Сарказі ў французскім кансерватызме. Пад гэтым у тым ліку разумеецца флірт з ксенафобскімі ідэямі, якія характэрныя для правых радыкалаў з партыі «Нацыянальны фронт». Палітолагі па-рознаму трактуюць вынікі выбараў. Некаторыя лічаць, што Капе, якога, дарэчы называюць «маленькі Сарказі», сваімі скандальнымі ісламафобскімі і папулісцкімі заявамі і дэмаршамі зможа прыпыніць рост папулярнасці «Нацыянальнага фронту». Між тым, перавага ўсяго ў 98 галасоў (у выбарах удзельнічала 300 тысяч прыхільнікаў UMP) паставіла партыю на мяжу расколу. Унутраны хаос можа прывезці да эрозіі электаральнай базы UMP. Так, ужо на наступны дзень пасля абвяшчэння вынікаў выбараў дэпутат-галіст Ліанэль Тардзі напісаў у сацыяльных сетах пра тое, што збіраецца з групай парламентарыяў выйсці з партыі. Праўда, такі варыянт магчымы, калі сам Франсуа Філон ініцыюе які-небудзь іншы праект. Пакуль ён папрасіў некалькі дзён, каб вызначыцца з далейшымі планамі.

### ВІКТАР КРАЎЧАНКА



Звычайны настаўнік у малдаўскім горадзе Бельцы нечакана для сябе выклікаў сапраўдную палітычную буру нацыянальнага маштабу. Усё пачалося з таго, што адзін яго вучань запісаў на мабільнік маналог педагога, якога абурыла тое, што нехта ў класе сказаў: «Бельцы — рускі горад». Краўчанка не толькі «наехаў» на аўтара выразу, аднак таксама падзяліўся сваімі думкамі пра феномен рускіх і Расіі ў сучасным свеце. Будучы юніяністам (прыхільнікам аб'яднання Малдовы і Румыніі), ён не саромеўся пры выбары слоў. «Акупанты! Наеў пысу на малдаўскай зямлі, я цябе сустрэну і пакалечу ў закутку! Выйдзе закон, мы знішчым рускіх!» З'яўленне запісу камуністы ўспрынялі як ціск настаўнікаў-нацыяналістаў на рускамоўных вучняў. На Краўчанку падалі ў суд, а камуністы-дэпутаты патрабавалі абмеркаваць гісторыю ў Бельцах на пасяджэнні нацыянальнага парламенту. Пасля гэтага пракуратура была вымушана пачаць апытанне вучняў класу, дзе выкладае русафоб, але яна адмовілася распачынаць супраць Краўчанкі крымінальную справу, што выклікала новыя пратэсты камуністаў. І тут у гэтай справе адбыўся новы нечаканы зігзаг. Краўчанка трапіў у шпіталь з мікраінсультам, і ўсе сімпатыі грамадскасці адразу аказаліся на яго баку. Сам Краўчанка, быццам, збіраецца падаць на камуністаў у суд за тое, што яны давялі яго да такога стану. Скандал працягваецца.

### АНАТОЛЬ ГРЫЦЭНКА

Грыцэнка — чалец украінскай апазіцыйнай партыі, якая ўваходзіць у склад аб'яднанай аранжавай апазіцыі «Батькивщина». Нечакана для ўсіх чалавек, які гуляў у апазіцыі другарадныя ролі, стаў яе нефармальным лідарам. Усё дзякуючы сваёй прапанове «абнуліць» спіс дэпутатаў, абраных у Вярхоўную Раду на выбарах 26 кастрычніка. На думку Грыцэнкі, калі апазіцыянеры адмовяцца ад дэпутацкіх мандатаў на знак пратэсту супраць фальсіфікацый выбараў, можна дабіцца перавыбараў. Гэта ідэя амаль тыдзень актыўна абмяркоўвалася апазіцыянерамі, аднак у выніку перамог прынцып «лепш сініца ў руцэ, чым журавель у небе». Але гэта гісторыя мае і іншы аспект. Падчас дэбатаў наконт «абнулення» нечакана высветлілася, што Грыцэнка фактычна падседзеў Арсенія Яцэнюка (старшыню кааліцыі «Батькивщина») на пасадзе лідара апазіцыі. На фоне радыкала Грыцэнкі Яцэнюк выглядаў нейкім апартуністам. У выніку Грыцэнка мае някепскі піяр. Перад выбаршчыкамі ён паўстаў як ідэйны апазіцыянер, гатовы ахвяраваць калі не ўсім, то ўжо прынамсі дэпутацкім мандатам у імя «барацьбы з рэжымам». Як лічаць эксперты, сітуацыя стоадсоткава адаб'еца і на росце ўплыву Грыцэнкі сярод апазіцыянераў аж да таго, што менавіта ён будзе адным з галоўных прэтэндэнтаў на пасаду адзінага кандыдата ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года.



▸ РОЗДУМ

# СУФРАЖЫСТКА І ПАЭТ

## ДА ПЫТАННЯ БЕЛАРУСКАГА ЛІТАРАТУРНАГА АЛКАГАЛІЗМУ

Марыя МАРТЫСЕВІЧ

— Мужчына, патушыце цыгарэту! — абурылася прадавачка.

— Хто курыць? Я куру? — абурыўся ў адказ сіпаты пажылы чалавек у яркім шаліку.

— Ясна, што вы! Зараз жа патушыце! А будзеце буяніць, выклічам міліцыю. Дарэчы, у нас тут відэаназіранне!

— Ну і што? Я не баюся тэлекамеры! Я здымаўся тысячу разоў! І выдатна выглядаю на экране! Я, каб вам было ясна, — паэт!

І, адкінуўшы з ілба даўгія сівыя валасы, паэт, хістаючыся, пасунуўся да выхаду, дзе з асалодаю зацягнуўся цыгарэтай.

Відаць, я на долю секунды болей, чым было варта, загледзелася на гэтую камічную сцэнку ў гаспадарчай краме на Лагойскім тракце. Паэт тут жа засёк маю цікавасць, але дагнаў мяне толькі на трамвайным прыпынку:

— Суфражыстка! Суфражыстка! Ану спыніся, каму я сказаў. Мне трэба з табой пагаварыць.

Настрой у мяне быў такі, што я спынілася.

### Сіняя кніга

Чаму з усіх пакупнікоў крамы ён вычапіў менавіта мяне? Хіба што спіртное, прытупляючы розум, актывуе інтуіцыю. Дакладней — асноўны інстынкт — «дастаць выпіць».

Але мне таксама была патрэбная такая сустрэча. Даўно наважвалася на тэму, якая да апошняга часу заставалася табуяванай у Беларусі. Алкагалізм белліту: быў, ёсць. Будзе?

Сёлета ў выдавецтве «Логвінаў» выйшла «Сіняя кніга беларускага алкаголіка». Споведзь аўтара, што падпісаўся Антон Кулон, — фізіка з адукацыі, які пазбыўся згубнай звычкі метадам амерыканскіх ананімных алкаголікаў. Чытаць яе весела і страшна адначасова. Самыя страшныя старонкі — 35 і 111. На іх Кулон пералічвае сваіх сабутэльнікаў. Большасць іменаў у простакутніках — гэтых людзей ужо няма. Аваламі Кулон абвёў імёны тых, чый лёс яму не вядомы.

Вясёлыя старонкі змяшчаюць анекдоты з жыцця мінскай пітушчай інтэлігенцыі часоў застою. Кніга таксама — дакумент эпохі. Кулон занатоўвае субкультуру мінскіх алкаголікаў 1970-х, выдае адрасы, паролі, яўкі. Прадстаўляе партрэты беларускіх літаратараў, якіх ведаў праз п'янку, — сярод іншых Кім Хадзееў і Міхась Стральцоў. Чырвоная нітка «Сіняй кнігі» — амбівалентнасць п'янства: аўтар жывапісуе «пастку алкагалізму, так прыгожа афарбаваную пад інтэлектуальны дысідэнцкія размовы і чытанні «геніяльных» вершаў».

Тая самая амбівалентнасць мела месца ў нас на трамвайным прыпынку.

### «Конь гуляў на волі…»

— Суфражыстка! Ну чаму ты нас, мужыкоў, так ненавідзіш?



Сваё бачанне інтэлектуальнага вар'яцтва спявак Зміцер Вайцюшкевіч выкладае ў песнях альбому "Ваячак" на вершы польскага паэта-самагубцы Рафала Ваячка. Альбом можна спампаваць бясплатна на спасылцы http://wojaczek.todar.net або купіць на сайце prastora.by

А я ж яму яшчэ ні слова не сказала. Адкуль высновы пра мае погляды? Ну так, дрэскод: джынсы, высокія боты, «чэкісцкі» палітон. Ясна — суфражыстка. Я стала разглядаць яго. Ён таксама быў красава:

— У мяне ўсё моднае! — прачытаў ён мае думкі. — Куртку мне падарылі ў Нью-Ёрку. Штаны — у Германіі. А боты аддаў сын. Яму малыя. Слухай, суфражыстка. Купі маю кнігу. Апошняя засталася. 20 тысяч. І ён выцягнуў зашмальцаваны томік пяцігадовай даўніны. Так выглядаюць аўтарскія — сапраўды апошнія, з якіх паэты чытаюць на вечарынах. «Конь гуляў на волі…» — прыгадалася мне.

Гэты радок з народнай песні — горкая метафара для наробку беларускай літаратуры, беспаваротна страчанага праз шклянку. Гэта таксама лейтматыў літаратурнага анекдоту 1980-х. Згадвае яго і Антон Кулон.

Маўляў, сядзіць у піўнусе інтэлігенцыя, п'е. Забягае ўсхваляванa-радасны журналіст Сяргей Аладзьеў са свежым нумарам часопіса «Маладосць», дзе на апошняй старонцы — анонс новай аповесці Міхася Стральцова «Конь гуляў на волі». Хваляванне чытачоў варта зразумець: з 1973 года, калі выйшла хрэстаматыйнае ўжо апавяданне «Смаленне вепрука», мастацкай прозы культавы літаратар больш не пісаў. І тут — такая неспадзянка. Але ні ў наступнай «Маладосці», ні праз нумар, аповесці так і не з'явілася. Затое праз год паўтарылася сцэна ў піўнусе: усхваляваныя чытачы і анонс стральцоўскага «Каня»…

Даследчык літаратуры Ціхан Чарнякевіч, які працаваў з архівам Стральцова, сведчыць, што пісьменнік сапраўды задумваў такі твор у жанры «вясковая проза» і нават склаў план да яго. Захаваліся рукапіс і машынапіс першай старонкі. Але поўны тэкст спецыялістам так ніколі і не трапляўся. Ці існаваў ён наагул?

Антон Кулон піў з пісьменнікамі, але, на шчасце для гісторыкаў, мала чаму ад іх навучыўся. Яго «вінным мемуарам», магчыма, бракуе дасканаласці стылю, уласцівай творам многіх яго сабутэльнікаў, аднак не пераняў ён ад іх і іншага — эзопавай мовы, з якой у беларускім асяроддзі прынята гаварыць пра «літаратурных алкаголікаў». На Стральцоўскім фэсце 25–26 лютага гэтага года сябры Стральцова шмат згадвалі паэта. Прагучала безліч эўфемізмаў: Стральцоў «жыў паўнатой жыцця» і «быў кампанейскім чалавекам»… Можна было нават даведацца, што «самай вясёлай парой у Мінску» быў «дзень, калі ў Доме літаратараў выдавалі ганарары…» Аўтар «Сіняй кнігі» піша наўпрост: «…творчасці Стральцова замінала п'янства, якое мела характар жудасных запояў, з усімі атрыбутамі гэтага стану…»

Каб напісаць верш, дастаткова кароткага азарэння — хай нават яго выклікаюць таксічныя рэчывы. Проза — гэта доўгія гадзіны пры працоўным стале, цвярозыя развагі і ўпартае кшталтаванне адной-адзінай фразы. Нацыя паэтаў, гаворыце?

### Вынас Анатоля Сыса

— Куды грошы суеш! А раптам не спадабаецца. Сядай і чытай. Але толькі тое, што я пакажу.

Ад такога метаду працы з чытачом я зніякавела, але і села, і стала чытаць.

Ён гартаў пажоўклыя старонкі, што пахлі тытунём, і тыцкаў пальцам у тэксты.

— Гэта прадмова. Чытай. Яе напісаў Валодзя Някляеў — павучальна сказаў паэт. — Што? Прачытала? — Тады верш чытай. Во, гэты нармальны.

Сапраўды, верш у цэлым быў нармальны. Здараецца горай.

— Ты не па радках чытаеш, а толькі рыфмы! — зрэнкі яго пашырыліся ад жахлівай здагадкі. — Ды ты з філфаку!

— У слове «стелить» адно «л», а не два, як у вас.

— Ну я ж гавару, з філфаку. Мая другая жонка была з філфаку. Ёй верш даеш, а яна толькі бачыць, дзе коскі не пастаўленыя. А на халеры мне тыя коскі? Можа, я Апалінэр? Кінуў я яе.

«Гэта хто каго», — падумала я, але ў голас не сказала. І так у суфражысткі запісалі.

Кплівая інтанацыя, выраз твару артыста камічнага жанру, усё гэта да болю нагадала яго яшчэ жывых сабратаў па чарцы. А таксама — Сыса.

Анатоль Сыс — самая цяжкая траўма сучаснай беларускай літаратуры. Напрыканцы 1980-х ён зрабіўся сапраўды нацыянальным паэтам, бо як ніхто іншы адпавядаў часу, месцу і густам эпохі. Але за нейкі дзясятак гадоў усё крута памянялася.

На літаратурныя імпрэзы я пачала хадзіць гадоў з 17, з 1999 года. І вось на маёй памяці Анатоля Сыса прынамсі тройчы былі выносілі з залы Дома літаратараў і адзін раз — з Чырвонага касцёлу. Дакладней, першыя два разы, як гэта выглядала для мяне, імпрэзу спрабаваў сарваць нейкі ананімны, іранічны і моцна п'яны беларускамоўны бомж. І толькі на трэці раз бомж, узняўшыся, прамовіў: «Тое, што гэты са сцэны чытае, — лухта. А вось я — Анатоль Сыс. І я вам пачытаю ВЕРШЫ». Як і ў папярэднія разы, да паэта падышлі двое хлопцаў і моўчкі вынеслі яго з залы. Усе іншыя паэты таксама маўчалі і адводзілі вочы.




Вынас Сыса — адно з самых яскравых уражанняў многіх маіх аднагодак, якія тады прыходзілі ў літаратуру. Адны пасля такога відовішча зарекліся піць, другія — пісаць паэзію. «Піў з Сысом — даваў Сысу на бутэльку — бачыў, як выносяць Сыса», — парадыгма беларускай літаратуры 1980-х, 1990-х і 2000-х.

Карэспандэнтка БелаПАН Алена Германовіч, прыехаўшы сёлета ў Гарошкаў на святкаванне народзінаў Анатоля Сыса, са змяшаным пачуццямі апісала пабачанае ў эсэ. Штогод сёстры паэта запрашаюць госцяў з Мінска і Гомеля ў дом, а на верандзе ствараюць «загончык» для «таксама сяброў» — яго аднавяскоўцаў-сабутэльнікаў. Выпіўшы, гэтыя вяскоўцы просяцца ў залу, дзе пачынаюць правакацыі падобныя тым, за якія ў апошнія гады жыцця выносілі самога Сыса: выказваць свае алкагалічныя схільнасці — «лаяцца матам ці хістацца, ці быць запанібрата з паэтамі, са ўсёй дуры ляпаць літаратараў па плячах, называючы «Эдзікам» ці «Толікам». А калі іх ставяць на месца — абураюцца: «Вот хто эты паэт? Хто?! Он жа пьяніца был, как і я! Дык пачаму яму праздник, і ўсё такое, усякія папрыехалі, і ля-ля-ля, он — то, он — сё, паэты ўсякія, пісацелі! А мне — што? Пачаму мне — нічаво?»

— Бо ты не пісаў такіх вершаў! — грэбліва адказваюць вясковаму алкаголіку.

На мой погляд, вельмі здарова, што, канчаткова дэградаваўшы, Анатоль Сыс тады выходзіў у людзі, крычаў, ляпаў па плячы, нагадваў пра сябе. У гэтым таксама быў мастацкі акт і апошняе жаданне творцы: вось ён я, жывы, і жывы я выглядаю менавіта так. Запомніце гэта.

### Хто не п'е, той не мужык

— Суфражыстка? Ты можаш нарадзіць? — Тэарэтычна магу. — Нарадзі мне сына! — У вас жа ёсць сын. — Як ты даведалася? — Вы самі сказалі. — А, так. У мяне сын у Нью-Ёрку і сын у Парыжы. Але мне трэба такога, каб застаўся ў Беларусі. Я бацьку абяцаў. Я патрыёт, разумееш? — Давайце я лепш куплю кнігу і паеду. Вось грошы. — Якія 20? 30. — Мы дамаўляліся на 20. — А ты, суфражыстка, хоць ведаеш, колькі цяпер каштуе гарэлка? Ты думаеш, я тут з табой проста так п'яны сяджу? Мне ж не-ха-па-е!!! — завыў ён.

Нарэшце мне стала не смешна, а страшна.

Многіх беларускіх пісьменнікаў сацыёлаг Алена Гапава ведае з дзяцінства. Яе маці працавала ў інстытуце літаратуры АН БССР і часта брала дачку на літаратурныя вечарыны. Гапава сведчыць: «Большасць пісьменнікаў сапраўды крэпка піла». Прычын гэтаму яна бачыць дзве — «агульную» і «нашую». Па-першае, кажа Гапава, «алкаголь заўсёды быў звязаны з творчасцю, бо ў пэўных аб'емах дае «інсайт» — азарэнне: здымае кантроль, і тады чалавек перастае ігнараваць думкі, якія цвярозаму здаюцца ідыёцкімі».

«Але што да беларускіх пісьменнікаў 1970-х, — працягвае яна, — справа яшчэ ў тым, што ў Беларусі яны належалі да пакалення, якое масава пераязджала з вёсак у гарады. Яны яшчэ не ўмелі жыць гарадскім жыццём, не ведалі, што рабіць з вольным часам, калі не трэба без перапынку працаваць, як на вёсцы, — ды і няшмат тады было забаваў увогуле. Таму застолле было «натуральным» бауленнем часу».

Гапава бачыць тут яшчэ праблему маскулінnасці: «Як пачуваццa мужчынам, калі не працуеш фізічна (сялянскі варыянт) альбо не зарабляеш шмат (буржуазны варыянт)? Алкаголь дае адчуванне «я мужык, мужчына», бо мужчыны п'юць, могуць шмат выпіць, бо яны «брутальныя». Гэта «мужчынскія паводзіны», такая нарматыўная мужнасць. Калі ты мужчына — пі».

А ўсе бабы, хто гэтага не разумее, — суфражысткі.

— Гэты верш — пра жанчыну, якая на 8 сакавіка сама купляе сабе кветкі. — Дзякуй, я ўмею чытаць,— Я напісаў яго пра цябе.

### Калі памрэ Брытні

— Суфражыстка, сфатаграфуй мяне на фоне гэтага плоту, і я пайду! У мяне хутка выйдзе новая

кніга. Трэба здымак на вокладку! Ды не хвалюйся ты так, — гэта я інстынктыўна ўчапілася ў мабільнік. — Лічбавы здымач я маю.

Але тут пад'ехаў чарговы трамвай і я, скарыстаўшыся тым, што суразмоўца, радасна заціснуўшы ў руцэ дваццатку, страціў пільнасць, ускочыла ў транспарт. Паэт скіраваўся ў прадуктовы.

Чаму страшная трагедыя ў лёсе многіх і многіх беларускіх літаратараў — жывых і ўжо не — замоўчваецца ў прэсе і літаратурнай крытыцы? Чаму мы спакойна і нават з пэўным пафасам пішам пра фізічныя заганы аўтараў, і гэта як бы апраўдвае якасць напісанага, а вось пра душэўныя хваробы — да якіх, безумоўна, варта аднесці алказалежнасць — не кажам публічна? Чаму пра гэта можна толькі шэптам?

Кніга Антона Кулона ды інтэрв'ю Адама Глобуса «Салідарнасці», у якім ён расказаў, што 10 гадоў не п'е, а да таго выпіваў па бутэльцы гарэлкі ў дзень, — вось і ўсё, што на сёння даступна публіцы. Можа, адкрытае абмеркаванне праблемы дапаможа адным творцам завязаць, а іншым — не развязваць увогуле?

Я спыталася пра гэтае дзіўнае табу ў інтэрнэце, і адказы былі вельмі розныя. Адзін адказчык лічыць, што, у адрозненні ад біёграфаў пісьменніка, «паспалітаму чытачу такія факты ведаць не абавязкова». Гэта не дае нічога для разумення твораў і патыхае «жоўтай прэсай», дадае другі. Трэці — журналіст — цынічна зазначае, што ўсё цягнецца яшчэ з савецкіх часоў: чалавек, што выдае маральныя імператывы і праводзіць генеральную лінію партыі, не можа валяцца ў парку ў ванітах. Таму павальная цяга сябраў СБП да чаркі замоўчвалася. А суддзі хто? — працягвае вядомы рокер. П'юць усе, таму выкрываць няма каму, бо лагічным будзе адказ: на сябе зірні.

Яшчэ адна рэспандэнтка, аднак, дзеліцца назіраннем, што ў параўнанні з папярэднікамі літаратары значна менш ужываюць алкаголю: яны больш вандруюць, больш працуюць, маюць разнастайныя хобі — на выпіўку застаецца мала часу. І, нарэшце, два карыстальнікі перакананыя, што алкагалізм сучасных пісьменнікаў нікому не цікавы, бо не цікавыя самі пісьменнікі: «Каб усім было не пофіг, колькі ты п'еш і калі здохнеш, — трэба быць Брытні Спірс».

«Нашае грамадства пакуль не мае навыкаў, як абмяркоўваць хваробы, у тым ліку псіхічныя, не ведае, як пра гэта размаўляць», — мяркуе Алена Гапава.

Адсюль — маўчанне. Пакуль не робіцца позна ўжо што-кольвек гаварыць.




**ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ**

# ВЫЕХАЦЬ НЕЛЬГА ЗАСТАЦЦА

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Аднойчы ад аднаго знаёмага я пачуў гісторыю пра дзеда, які жыве дзесьці на Заходняй Украіне і ў якога ёсць аж пяць пашпартоў розных дзяржаў. За сваё жыццё ён паспеў пабываць падданым Аўстра-Венгрыі, Другой Рэчы Паспалітай, Закарпацкай Украіны, СССР і, нарэшце, незалежнай Украіны. Жыў сабе чалавек, а зямля, на якой стаяў яго дом, адыходзіла то да адной, то да другой дзяржавы.**


Іван Сапоцька, 1944 г.

Падобную гісторыю мелі і шматлікія жыхары заходняй часткі нашай краіны, якія, нарадзіўшыся ў «панскай» Польшчы, у 1939 годзе сталі грамадзянамі Савецкага Саюза. Многія з гэтых людзей пасля заканчэння Другой сусветнай вайны пакінулі свае дамы і выехалі ў «сацыялістычную» Польшчу. Аднак здараліся выпадкі, калі частка сваякоў рэпатрыіравалася ў суседнюю дзяржаву, а другая заставалася «за жалезнай заслонай».

Аб праблеме рэпатрыяцыі польскага насельніцтва з тэрыторый, далучаных да СССР у верасні 1939 года, савецкае кіраўніцтва пачало задумвацца адразу пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. Ужо ў лістападзе 1945 года ў Варшаве была падпісана дамова паміж польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення і ўрадам БССР аб эвакуацыі беларускага насельніцтва з тэрыторыі Польшчы і перасяленні польскіх грамадзян з БССР.

Масква рабіла стаўку на «польскіх патрыётаў» з «камітэту» і дзеля гэтага штучна павышала статус гэтага органа. Да таго ж савецкае кіраўніцтва разумела, што, палякі, якія заставаліся на тэрыторыі заходніх абласцей БССР і УССР, з'яўляліся патэнцыяльнай апорай антысавецкіх атрадаў Арміі Краёвай, байцы якой не маглі пагадзіцца з перасоўваннем усходняй польскай мяжы і прагнулі змагацца за «ІІ Рэч Паспалітую». У выніку першай хвалі рэпатрыяцыі ў 1944–1946 гадах з БССР выехала больш за 200 тысяч былых польскіх грамадзян.

Другая хваля рэпатрыяцыі прайшла ў 1955–1959 гадах і была звязана з «хрушчоўскай адлігай». У маі 1955 года памочнік Хрушчова У. Лебедзеў з МЗС Польшчы атрымаў ліст, у якім, у прыватнасці, адзначалася, што «ў сувязі з ваеннымі і пасляваеннымі цяжкасцямі, значная колькасць асоб, якія адпавядалі крытэрыям, абумоўленым Дагаворам ад 1945 года, не змаглі скарыстацца з магчымасцяў выезду на радзіму, што прывяло да ўзнікнення праблемы падзелу сямей».

15 лістапада 1956 года У. Гамулка і Ю. Цыранкевіч асабіста едуць у Маскву і спрабуюць дамовіцца з савецкімі ўладамі аб дазволе грамадзянам польскага паходжання выехаць на радзіму. Палякаў можна было зразумець. Яны страцілі «крэсы» на ўсходзе, але атрымалі «крэсы» на захадзе. Нямецкае насельніцтва адтуль збегла, і яго трэба было замяняць палякамі з-за Бугу. Савецкі бок пайшоў на сустрэчу польскім таварышам, і ў 1956 годзе з СССР выехала каля 40 тысяч палякаў. А 25 сакавіка 1957 года паміж урадамі Польскай Народнай Рэспублікі і СССР была падпісана новая дамова аб рэпатрыяцыі з тэрыторыі Савецкага Саюза насельніцтва польскай і яўрэйскай нацыянальнасці, якія да 17 верасня 1939 года мелі польскае грамадзянства.

У каментарыі да дадзенага дакумента, у прыватнасці, адзначалася, што «асобы, якія жадаюць рэпатрыіравацца, павінны да 1 кастрычніка 1958 года звярнуцца ў раённыя ці гарадскія аддзелы міліцыі і напісаць адпаведную заяву». Польскую нацыянальнасць можна было пацвердзіць з дапамогай савецкіх пашпартоў, дадзеных польскіх дакументаў, метрыкальных запісаў, пасведчанняў, атрыманых у гарадскіх ці сельскіх саветах. Тое ж самае датычылася і пацвярджэння польскага грамадзянства да 17 верасня 1939 года. У выпадку малалетніх пацвярджэннем былі дакументы бацькоў. У Дагаворы таксама падкрэслівалася, што галоўнай умовай рэпатрыяцыі з'яўляецца жаданне асоб да ўз'яднання сямей.


ВОИНСКАЯ ЧАСТЬ
ПОЛЕВАЯ ПОЧТА
№ 51822

«1 декабря» 1945 г.
№ 132

УДОСТОВЕРЕНИЕ

Гражд. Сопотько Ивану Ивановичу
состоит с «12» июля 1943 года на действительной военной службе в Польской Армии в должности стар. лейтенанта
Выдано для получения гражд. Сопотько Юзефа
и членами его семьи льгот, установленных Кодексом о льготах для военнослужащих и военнообязанных РККА и их семей.
Удостоверение действительно по «31» декабря 1946 года

Командир части
Нач. Штаба

Адказ упаўнаважанага прадстаўніка па рэпатрыяцыі ў Баранавічах на выезд Ірыны і Юзэфа ў Польшчу, 1945 г.


GŁÓWNY PEŁNOMOCNIK
RZĄDU R. P.
do spraw ewakuacji
L. dz. 8839/B.

Warszawa, dn. 28. XII. 45 1945 r.

Do
Urzędu Pełnomocnika do spraw ewakuacji
w Baranowiczach

W związku z podaniem obywatela polskiego, narodowości polskiej,
Jana Sopoćki z dn.
zam.: [illegible]
wzywam do kraju jego rodzinę, a mianowicie:
Józefę i Irenę Sopoćko
zam.: obł. Mołodeczno, [illegible]
Wyżej wymienionych należy niezwłocznie zarejestrować na wyjazd do Polski
i skierować do [illegible]

Główny Pełnomocnik
(–) W. WOLSKI

Пасведчанне І. Сапоцькі, афіцэра польскай арміі, 1946 г.

Польскі бок, каб спрасціць справу рэпатрыяцыі, некалькі разоў спрабаваў дамовіцца з Масквой аб адкрыцці ў Мінску Генеральнага консульства ПНР (такое дзейнічала ў Кіеве), аднак савецкі бок на гэты крок не пайшоў. Менавіта таму жыхарам БССР трэба было накіроўваць свае дакументы ў Бюро паўнамоцнага прадстаўніка польскага ўраду па справах рэпатрыяцыі палякаў у Амбасадзе ПНР, якая знаходзілася на вул. А. Талстога, 30 (зараз вул. Спірыдонаўка) у Маскве.

Адной з такіх грамадзянак БССР, што спрабавалі ў 1958 годзе выехаць на пастаяннае месца жыхарства ў Польшчу, была Юзэфа Іванаўна Сапоцька з вёскі Сурынты, Маладзечанскага раёна. Яе брат Іван (Ян) Сапоцька з ліпеня 1943 года служыў у Народным Войску Польскім у 1-й Варшаўскай танкавай брыгадзе імя Герояў Вестэрплятэ ў званні паручніка.

Пасля заканчэння баявых дзеянняў Іван вырашае застацца ў Польшчы, і ў снежні 1945 годзе накіроўвае на імя галоўнага ўпаўнаважанага польскага ўраду па справах эвакуацыі польскага насельніцтва ў Баранавічах прашэнне аб дазволе выезду ў Польшчу яго сёстрам Ірыне і Юзэфе. Праз некаторы час дзяўчыны атрымлівалі дазвол на «эвакуацыю» з БССР.

Аб тым, якая няпростая міжнародная сітуацыя была тады, сведчыць Пастанаўленне гарадскога суда ў г. Еленя Гура ад 30 кастрычніка 1946 годзе, якім Івану Сапоцька было дазволена не прадстаўляць у дзяржустанову выпіску з метрыкі, таму што «мястэчка Краснае ў Маладзечанскім павеце, Віленскага ваяводства, дзе Сапоцька быў хрышчоны, зараз знаходзіцца на тэрыторыі Савецкай Расіі (так у дакуменце — І.М.), і паездка туды не магчыма ў сувязі з неакрэсленымі міжнароднымі адносінамі паміж краінамі».

Хутка ў Польшчу прыязджае Ірэна Сапоцька, а… Юзэфа застаецца ў БССР. Чаму так адбылося, зараз сказаць цяжка. Мабыць, хтосьці перашкодзіў старэйшай сястры далучыцца да сям'і. А можа, яна банальна не паспела сабраць патрэбныя дакументы.

Хутка Ірына атрымлівае грамадзянства ўжо сацыялістычнай Польшчы і выходзіць замуж. А Юзэфе Іванаўне давялося чакаць амаль 10 гадоў на чарговую хвалю рэпатрыяцыі. У красавіку 1958 года жанчына накіроўвае «пакет» дакументаў у Амбасаду ПНР. Здзіўляе, што ўжо праз некалькі тыдняў з польскай дыпустановы прыходзіць адказ, які напэўна расчараваў Юзэфу Сапоцька. У лісце, у прыватнасці, адзначалася, што ў адпаведнасці з умовай ад 25 сакавіка 1957 года Юзэфа Сапоцька не мае права на рэпатрыяцыю, бо… з'яўляецца беларускай па нацыянальнасці. Хутчэй за ўсё, у савецкіх дакументах нацыянальнасць жанчыны была запісана як беларуская. Таму супрацоўнікі бюро па рэпатрыяцыі адмовілі Юзэфе Іванаўне ў праве на выезд на жыхарства ў Польшчу. Не дапамаглі нават дакументы з пацвярджэннем таго, што частка сям'і ўжо жыве ў Польшчы. Вось так, па жывому, была падзелена адна з заходнебеларускіх сямей. А такіх сямей былі сотні.

Сваістае тлумачэнне такіх паводзін польскага боку мы знаходзім у стэнаграме размовы тагачаснага міністра ўнутраных спраў Польшчы В. Віха з яго савецкім калегам М. Дударавым. Паляк падкрэсліваў, што ў 1958 годзе паток перасяленцаў пачалі змяншаць, таму што польскія ўлады не спраўляліся з наплывам суайчыннікаў з-за ўсходняй мяжы і не маглі іх забяспечыць усім неабходным. У гарадах месца для рэпатрыянтаў не было, бо не хапала жылля і рабочых месцаў. Адзінае месца — гэта вёска, але і там было шмат праблем. Напрыклад, не хапала свабоднай зямлі.

Савецкі бок таксама спрабаваў кантраляваць працэс рэпатрыяцыі польскага насельніцтва з БССР. У Маскве разумелі, што масавы выхад можа прывесці да апустошання заходнебеларускіх вёсак, і хто тады будзе падымаць народную гаспадарку?! Да таго ж савецкія ўлады спрабавалі перашкодзіць асобам яўрэйскай нацыянальнасці выкарыстаць ад'езд у Польшчу як шанс пазней эміграваць у Ізраіль.

Усяго, падчас другой хвалі рэпатрыяцыі з БССР у ПНР перасялілася каля 100 630 чалавек. Перасяленцы ў асноўным размяшчаліся на заходніх тэрыторыях Польшчы і былі працаўладкаваныя ў сельскай гаспадарцы. Падчас рэпатрыяцыі 1955–1959 гадоў у ПНР прыехала шмат будучых знакамітасцяў, у тым ліку і ўраджэнец Лідчыны Чэслаў Выджыцкі, больш вядомы як Чэслаў Немен.

А што ж з Юзэфай Сапоцька? У сярэдзіне 1960-х яна звярнулася ў АВІР Маладзечна з просьбай аформіць для яе сястры Ірыны запрашэнне для візіту ў БССР. Ці ўбачыліся беларуска Юзэфа і полька Ірына, сёння ўжо ніхто не ведае.

▸ КУДЫ ІДЗЕШ, МАЯ РАДЗІМА

# ПРА НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГОМАСЭКСУАЛІЗМ

Віталь ВОРАНАЎ

**Час ад часу, цяпер ужо з пэўнай перыядычнасцю, у беларускім грамадстве ўзнікаюць спрэчкі вакол гомасэксуалізму. Беларуская спецыфіка палягае ў тым, што да тэмы гомасэксуалізму і ўлада, і апазіцыя ставяцца больш-менш аднолькава. Хаця стаўленне іх падобнае, аднак матывацыя ў кожнага свая.**

Улада адстойвае сваю пазіцыю «мача», суперсамца, для якога гомасэксуалізм — штосьці варожае і гідотнае. Гэта, аднак, толькі вонкавая абалонка, бо ў шырокім плане ўлада не праяўляе ваяўнічай гамафобіі — у Мінску рэгулярна адбываюцца адкрытыя гей-вечарыны, дыскатэкі і клубныя акцыі.

Што тычыцца апазіцыі, то частка яе асуджае гомасэксуалаў з-за рэлігійных меркаванняў, трактуючы такія адносіны як грэх. Іншыя апазіцыйныя палітыкі лічаць лепшым дыстанцыявацца ад тэмы, баючыся асуджэння з боку ўлады, пры гэтым часцяком аджартоўваючыся і ўхіляючыся ад сур'ёзнай палемікі. Трэба прызнаць, што ў апазіцыі ёсць таксама палітыкі, якія падзяляюць ліберальныя погляды на гэтую тэму, тыповыя для еўрапейскай палітычнай сцэны.

Калі ж браць меркаванне грамадства, то тут прадстаўлена поўная палітра падыходаў — ад жорсткага ганьбавання, праз умеранае талераванне, да поўнай абыякавасці. Дык як урэшце ставіцца да ўсяго гэтага з пазіцыі беларускага інтарэсу?

Для пачатку трэба ўсвядоміць, што гомасэксуалісты бываюць такімі ж рознымі, як і гетэрасэксуалы. Сярод групы ёсць мноства людзей, якія цалкам адэкватна ўспрымаюць рэчаіснасць і маюць дарэчныя погляды на грамадства. Яны могуць адстойваць рэальныя пастулаты, як змаганне супраць пераследу па сэксуальных прычынах ці права на афармленне партнёрскіх шлюбаў. Аднак я асабіста сустракаў гомасэксуалаў, якія самі асуджалі амаральныя патрабаванні наконт адопцыі дзяцей і супрацьўляліся пашырэнню гомасэксуальнасці ў форме ідэалогіі. Больш за тое, хацяў гэта, можа, цяжка паверыць, ёсць мноства гомасэксуалаў, якія прынцыпова не ўдзельнічаць у гей-парадах.

Як любы аспект грамадскага жыцця, тэма гомасэксуалізму выступае ў некалькіх адценнях. Толькі невялікі адсотак групы ператварае сваю арыентацыю ў змаганне і палітычную платформу, але гэта не тычыцца ўсіх, і рызыкну сказаць, што гэта не тычыцца нават і чвэрці асяроддзя. Па розных статыстыках, адсотак гомасэксуальнага насельніцтва ў разы большы за тыя дзясяткі ці сотні ўдзельнікаў гей-парадаў не толькі ў Беларусі, але таксама ў краінах, дзе гэта не толькі легальна, але і бяспечна.

Хрысціянскія дэмакраты ў найбліжэйшы час наўрад ці памяняюць сваё бачанне гэтай праблемы, але астатнім дэмакратам варта было б адрозніваць патрабаванні сэксуальных маньякаў ад патрабаванняў геяў і лесбіянак да мірнага жыцця ў здаровым грамадстве. Пры падтрымцы такіх пастулатаў трэба даваць голас адэкватным прадстаўнікам меншасці, якія здольныя аргументавана паказваць шматграннасць сваіх праблемаў. Пры гэтым ні ў якім выпадку нельга забывацца пра правы большасці і неад'емнае значэнне традыцыйнай сям'і для грамадства і краіны ў цэлым.

Дзяржава не мае права станавіцца на бок меншасці і прымушаць большасць засвойваць рэчы, якія яе фактычна не датычаць. Тым больш, пытанне гэтае не павінна станавіцца асноўным аб'ектам спрэчак і палітычных дэбатаў. Хацелася б усё ж слухаць, як палітыкі спрачаюцца пра эканоміку і беспрацоўе — рэчы, якія закранаюць кожнага, а пра тое, як каму і з кім жыць, хай ужо кожны, калі гэта дазволена правам, вырашае сам.

Урэшце, закранутая праблема вельмі добра праглядаецца на прыкладзе літаратуры, у прыватнасці — літаратурнага канону. Дарэмна, напрыклад, сцвярджаць, што геніяльнасць Оскара Уайльда, Генры Джэймса ці Марсэля Пруста губляе з-за таго, што яны былі гомасэксуалістамі. З другога боку, яшчэ ніводзін пісьменнік не трапіў у канон літаратуры толькі на правах прыналежнасці да сэксуальнай меншасці. Застаецца спадзявацца, што як і ў літаратуры, так і ў жыцці вартасць працы будзе надалей ацэньвацца на аснове яе якасці, а не стракатасці.

▸ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# «КНІЖНАЯ КУЛЬТУРА ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ Ў БЕЛАРУСІ»

Аляксей ХАДЫКА

**Прафесар Беластоцкага ўніверсітэта Антон Мірановіч — даўні сябра НЧ. Ён ачольваў польскі бок на «круглым стале» беларускіх і польскіх гісторыкаў па праблемах падзей 1939–1945 гадоў. Гэтым разам Міранові наведаў беларускую сталіцу, каб прэзентаваць свае кнігі, прысвечаныя асноўным тэмам доследаў — культуры і гісторыі беларускай праваслаўнай царквы, беларуска-расійска-польскіх узаемасувязей, культуры беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.**



Прафесар Антон Міранові

53-гадовы кіраўнік кафедры гісторыі культур пагранічча ў Інстытуце гісторыі Беластоцкага ўніверсітэта на сёння мае на сваім рахунку 35 надрукаваных кніг, каля 500 навуковых артыкулаў, падрыхтаваў нямала вучняў — 10 простых (роўных нашым кандыдатам) і 2 габілітаваных дактароў навук, за 1000 магістраў. Большасць з выданняў Міранові ча прадстаўлена ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі — і зараз зноў прафесар прывёз у бібліятэку чарговыя кнігі. Кіраўніцтва бібліятэкі да прэзентацыі паклапацілася зрабіць выставу папярэдніх прац прафесара.

Міранові пачынаў вывучаць архіўныя дакументы з сярэдзіны 1980-х гадоў адначасова з гасцямі прэзентацыі, беларускімі даследчыкамі Валянцінам Голубевым і Уладзімірам Дзянісавым. На думку гэтых мінскіх сяброў прафесара, менавіта руплівая праца з архіўнымі дакументамі складае аснову вартасці яго прац. Напачатку даводзілася пераадольваць незвычайныя цяжкасці: у беларускіх архівах замежным грамадзянам (хай і беларусам) не дазвалялася непасрэдна глядзець каталогі дакументаў. Не кажучы пра магчымасць капіраваць арыгіналы фотакопіяй… Даводзілася дапамагаць адзін аднаму.

Звярнуцца да царкоўнай гісторыі было няпроста: у постсацыялістычных краінах гэта поле заставалася неўзараным з часоў Расійскай імперыі. Валянціну Голубеву, які напачатку марыў заняцца вывучэннем рэлігійнай спадчыны, перашкодзіла магчымасць палітычных уплываў на прадмет даследавання. У часы перабудовы ён далучыўся да дзейнасці беларускіх дэмакратычных сіл, прайшоў у склад Вярхоўнага Савета Беларусі XII склікання. У Польшчы займацца гісторыяй праваслаўнай, асабліва беларускай, царквы — таксама не толькі навука. Але гэта не проста палітыка, а палітыка выжывання для беларускай меншасці: калі беларускія каталіцкія арганізацыі на сёння на Беласточчыне амаль зніклі, то праваслаўныя — працягваюць гуртаваць народ. Менавіта папулярнасць тэмы і вядомасць як яе даследчыка падштурхнулі Міранові ча ў 2009 годзе, хоць і беспаспяхова, балатавацца ў Еўрапарламент.

Найлепшы бок навуковага метаду Міранові ча — уважлівая праца з дакументамі. Дакументальная дакладнасць дазваляе яму выпраўляць сур'ёзныя хібы прац папярэднікаў. Так, даводзячы факт росквіту царкоўнага жыцця ў Турава-Пінскай епархіі XI–XVI стагоддзяў (тэма адной з апошніх манаграфій), Міранові налічыў у час росквіту буйнейшай царкоўна-адміністрацыйнай адзінкі ВКЛ 296 прыходаў, а не 24(!), як падаваў «Беларускі гістарычны атлас». Таму і гутарка за круглым сталом увесь час вярталася да неабходнасці рэальнага і віртуальнага — у электронным выглядзе — вяртання архіваў, публікацыі дакументаў пра найбольш значныя манастырскія і свецкія кнігазборы. У практычнае рэчышча супрацоўніцтва польскіх і беларускіх даследчыкаў, з удзелам таксама літоўскіх і расійскіх калег, у бліжэйшы час пераходзіць у дачыненні бібліятэк Супрасльскага і Жыровіцкага манастыроў.

Важнасць супрацоўніцтва адзначыў у сваім выступе ганаровы старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў прафесар Адам Мальдзіс, назваўшы яго «кніжнымі мастамі культуры паміж Мінскам і Беластокам», як і іншымі даследчымі цэнтрамі. «Масты» будуюцца ў некалькіх сферах. Гэта свежыя выданні «Новае слова ў беларусістыцы» па матэрыялах V Міжнароднага кангрэса беларусістаў 2010 года (серыі мовазнаўства, літаратуразнаўства і фалькларыстыка, беларусазнаўства), падрыхтоўка свежай анталогіі паэзіі беларускага замежжа. І стварэнне адзінай даведачнай базы дадзеных па беларусах у свеце. Другое пашыранае выданне даведніка «Беларусы ў свеце» (з падтытулам «Беларусы ў памежных краінах») хутка мусіць ажыццявіць выдавецтва «Энцыклапедыкс». З'явіцца таксама інфарматар з адрасамі беларусаў замежжа, найперш даследчыкаў і навукоўцаў. Падтрымка гэтых праектаў польскімі беларусамі з Беластоку вельмі пажаданая.

Аптымістычную ноту ў агучванні апошніх планаў, якія ажыццяўляе ў Мінску Інстытут культуры Беларусі, надае разгортванне Міністэрствам культуры праграмы «Беларусы ў свеце». Пра яе, прыйшоўшы прывітаць прафесара Міранові ча, казаў на сустрэчы намеснік міністра Тадэвуш Стружэцкі. Практычнай базай увасаблення праграмы паслужаць беларускія культурныя цэнтры, якія ўжо створаны пры дыпламатычных прадстаўніцтвах Беларусі ў Польшчы, і ў бліжэйшыя год-два будуць разгортвацца ў Літве і Расіі.

Прысутныя на дыскусіі пагадзіліся, што тэзіс «рукапісы не гараць» варта ўвасабляць праз выданне рукапісаў, дакументаў, рэдкіх старых кніг і дбайнае захаванне архіваў. У тым ліку даследчыцкіх, карысных наступнікам-навукоўцам. Прафесар Міранові спрабуе ў гэтым паказаць прыклад — ужо другі раз ён прывёз і перадаў на захаванне Нацыянальнай бібліятэцы чарговую частку асабістага навуковага архіву.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.
ЗАСНАВАЛЬНІК: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
ВЫДАВЕЦ: Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org
НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
Замова № 1216

Падпісана да друку 23.11.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.